–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
13
ЛІСТАПАДА
1992 г.
№ 46 (3664)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 1 рубель. (Па падпісцы — 10 кап.)





Мастацкія крытыкі спрачаюцца адносна дасягненняў нашых творцаў у галіне станковага і манументальнага жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. Але што датычыць графікі, тут усе сыходзяцца на адным: узровень — еўрапейскі. І ў мастакоў старэйшага пакалення, тых, што пачыналі ў 60-я, і ў іхніх маладых калег. Рыгор Сітніца належыць да маладога пакалення, аднак ягоныя творчыя здабыткі зрабілі б гонар і сталаму майстру. Выразны штрых і глыбокая думка — гэтым адметныя яго аркушы.

**В. БОГУШ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

Мы заўсёды ставіліся з вядомым скепсісам да выступаў расейскіх шаманаў, прадказальнікаў, прарокаў і да іх падобных феноменаў. Аднак на мінулым тыдні ўвагу прыцягнулі радыё- і публічныя выступленні ў рэспубліцы слыннага расейскага астролага П. Глобы, які ў свой час слушна прадказаў смерць У. Высоцкага, палітычныя змены ў СССР і іншыя рэчы, што спраўдзіліся. Што вяшчаў астролаг цяпер? Па-першае, канстатаваў, што дзяржаўная цэласнасць Беларусі не парушыцца, а ўмацуецца з цягам часу. Па-другое, што распадзецца з часам суседняя Польшча (тут астролаг зусім па-палітычнаму разважыў, што пасля Г. Коля ў Нямеччыне прыйдзе да ўлады лідэр, што актыўна паставіць пытанне аб вяртанні зямель Сілезіі і Памераніі, якімі валодае зараз Польшча). Па-трэцяе, П. Глоба прэзентаваў астралагічную мапу Менска (хутка будзе распрацавана мапа ўсяе рэспублікі), на якой пазначаны зоны пажаданага пражывання ў горадзе прадстаўнікоў розных знакаў Задыяка. Безумоўна, шмат для каго гэтая мапа падкіне роздумаў — ці не змяніць раён пражывання?.. Суцешна, аднак, што г. зв. «мёртвыя зоны» прыпадаюць у Менску на пусткі і смяццёўнікі.

А палітычны карабель Беларусі плыве ў далеч незалежнасці пад знакам Шаляў: так што катаклізмаў у нас не прадбачыцца. Ну дык і добра.

**5 ЛІСТАПАДА**

Парламент Расійскай Федэрацыі прыняў пастанову аб наданні межам Расіі з прыбалтыйскімі дзяржавамі статуса дзяржаўнай мяжы. На межах з Літвой, Латвіяй і Эстоніяй будзе стварацца адпаведная інфраструктура, пазначыцца пагранічная лінія, устаноўлены пагранічныя пасты і да т. п. У парламенце РФ гучалі таксама прапановы ўстанавіць аналагічны межавы рэжым у стасунках з краінамі СНД, а таксама з Грузіяй і Таджыкістанам.

**6 ЛІСТАПАДА**

Нацыянальны банк Беларусі прыняў рашэнне аб пераходзе на грашовыя разлікі на тэрыторыі рэспублікі — толькі «беларускімі рублямі». Гэтае рашэнне тычыцца ўсіх харчовых тавараў і ўступае ў сілу з 10-га лістапада. Расейскі безнаяўны рубель, такім чынам, апынуўся ў стане замежнай валюты. Яшчэ адзін крок да незалежнасці?

**7 ЛІСТАПАДА**

Па паведамленнях замежных радыёстанцый, ЗША і Еўрапейская эканамічная супольнасць знаходзяцца «на мяжы гандлёвай вайны». Злучаныя Штаты, між іншым, аб'явілі аб уводзінах з 5-га снежня г. г. 200-працэнтнага падатку на еўрапейскі імпарт — калі ЕЭС не пагодзіцца на саступкі ў гандлі сельгаспрадуктамі.

Памёр Аляксандр Дубчак, лідэр «пражскай вясны» 1968-га года. Смерць наступіла ад пашкоджанняў, атрыманых ў аўтакатастрофе.

**8 ЛІСТАПАДА**

Устаноўлены дыпламатычныя адносіны Беларусі з Аргенцінай. Адпаведнымі граматамі абмяняліся ў Нью-Йорку паўнамоцныя прадстаўнікі абедзвюх краін пры ААН.

Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ («Грамады») прыняў рашэнне правесці другі з'езд партыі 18—20-га снежня ў Менску.

**9 ЛІСТАПАДА**

Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебіч знаходзіўся ў паездцы па Магілёўскай вобласці. Пабываўшы на прадпрыемствах Бабруйска, В. Кебіч наведаў вёскі Калюга і Сяльцы Глускага раёна, што згарэлі ў час летніх пажараў. Тады старшыня ўрада паабяцаў сялянам, што ў лістападзе яны справяць наваселле. Што ж — абяцанне спраўдзілася: на месцы пажарышчаў паўсталі новыя цагляныя дамы. В. Кебіч меў сустрэчы з навасёламі.

**10 ЛІСТАПАДА**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Закон «Аб усеагульным воінскім абавязку». Прынята таксама пастанова аб прывядзенні да прысягі асабовага складу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь 31-га снежня г.г. Прыняць прысягу змогуць толькі вайскоўцы — грамадзяне рэспублікі.

Вярхоўны Савет Таджыкістана прыняў рашэнне аб самароспуску з мэтай перавыбараў і сфарміравання новага, дэмакратычна абранага парламенту.

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын, знаходзячыся з афіцыйным візітам у Вялікабрытаніі, заявіў, што «Еўропа для Расіі заўсёды была бліжэй, чымся Амерыка».

**11 ЛІСТАПАДА**

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Зімбабвэ ў Рэспубліцы Беларусь М. Сібанда ўручыў даверчыя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевічу.

Усталяваны дыпламатычныя адносіны паміж дзяржавамі Ватыкан і Беларусь. Даверчымі лістамі абмяняліся міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка і папскі нунцый у Маскве архіепіскап Ф. Каласуона.

**12 ЛІСТАПАДА**

Адбыўся ўстаноўчы сход хрысціянскай злучнасці «Курапаты». Мэта злучнасці — догляд месцаў пахавання ахвяраў рэпрэсій, місія міласэрнасці.

Міністэрства замежных спраў паведаміла, што на 19-га лістапада прызначана сустрэча рабочых груп Літоўскай Рэспублікі й Рэспублікі Беларусь па дэлімітацыі дзяржаўных межаў (г. зн. вызначэнні лініі межаў). Не верыцца—няўжо паміж Беларуссю і Віленшчынай сапраўды калі-небудзь узнікне мяжа?..

ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# КОЛЬКІ ПЯТНІЦ НА ТЫДНІ?

Пачатак абмеркавання Закона аб нацыянальных меншасцях Рэспублікі Беларусь у мінулую пятніцу не абяцаў асабліва бурных дэбатаў. Старшыня Камісіі на нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах М. Слямнёў, прадстаўляючы падрыхтаваны да другога чытання законапраект, сказаў, што ён адпавядае ўсім нормам міжнароднага права. Пры гэтым, на яго думку, закон атрымаўся вельмі простым і даступным. Аднак пры абмеркаванні прэамбулы разгарэліся спрэчкі вакол самога паняцця «нацыянальная меншасць». Ці трэба яго расшыфроўваць у законе? Ёсць, напрыклад, паняцце аўтахтоннай (карэннай) і неаўтахтоннай нацыянальнасці. Ёсць паняцце этнічнай групы. Ёсць, у рэшце рэшт, розныя погляды на праблему з боку розных вучоных. Але ж звычайны чалавек не абавязаны ведаць, якім чынам яго этнічная прыналежнасць вызначаецца «па навуцы». Ягонае права, даводзіў М. Слямнёў — самому вызначыць, да якой нацыянальнасці сябе залічваць. Такі падыход пераважыў.

На гэтым канструктыўная частка, можна сказаць, скончылася. Першы намеснік Старшыні ВС Беларусі В. Кузняцоў, які старшыняваў у той дзень на сесіі, вырашыў «навесці парадак». Ён не дазволіў выступаць ад мікрафона не толькі з папраўкамі (у прынцыпе, усе яны, зразумела, павінны раздрукоўвацца загадзя), але і па матывах галасавання і нават па вядзенні. У выніку не толькі не быў прыняты цалкам ніводзін артыкул закона, але пра яго ўвогуле забыліся з-за канфліктнай сітуацыі ў зале. Частка дэпутатаў дэманстратыўна пакінула свае месцы. І тут выявілася, што няма кворуму. А праблема з кворумам, асабліва па пятніцах, на сесіі ўзнікае не ўпершыню. (Пазней С. Шушкевіч прывёў цікавыя звесткі: у сярэднім на сесіі галасуе 54 працэнты ўсіх дэпутатаў. Пятая частка іх адсутнічае пастаянна). Хочаш — не хочаш, дэпутатам прыйшлося ў каторы раз вяртацца да праблем дысцыпліны. Гучалі не надта новыя прапановы — апублікаваць спісы «злосных прагульшчыкаў», пакараць іх рублём і г. д. Але была і зусім арыгінальная ідэя — наогул адмовіцца ад пленарных пасяджэнняў па пятніцах. Праўда, узніклі апасенні, што тады прыйдзецца адмовіцца ад работы ў чацвер, потым у сераду.

Пасля выхадных, аднак, дэпутаты прадэманстравалі зайздросную працаздольнасць. У аўторак былі ўхвалены пастановы аб прыняцці вайсковай прысягі і аб увядзенні ў дзеянне Закона аб усеагульным вайсковым абавязку, прыняты ў першым чытанні Закон аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (у дыскусіі пасля садакладаў, што цікава, пажадаў гэтым разам выступіць усяго адзін чалавек), разгледжана пытанне аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, прадстаўлены законапраект аб пракуратуры.

У гэты ж дзень парламентарыі вярнуліся да Закона аб нацыянальных меншасцях. І гэтым разам не абышлося без спрэчак. У артыкуле закона (які, на думку апазіцыі, у многім паўтарае і нават дубліруе Закон аб грамадзянстве) аб канстытуцыйных правах, скажам, пералічваецца шмат пунктаў. Некаторыя з іх — тыя, напрыклад, што тычацца права выбіраць і выбірацца ў органы ўлады, — прапанавалася зняць. Аўтары паправак даводзілі, што не трэба лішні раз паўтараць нормы дзеючай Канстытуцыі. Але дэпутат В. Грыбанаў прапанаваў успомніць, як яшчэ нядаўна «пятая графа» лёгка станавілася бар'ерам пры прыёме на работу, асабліва на кіруючыя пасады.

Пайменным галасаваннем узгаданыя пункты былі прынятыя.

**Віталь ТАРАС.**

З НАГОДЫ

# Святочная паштоўка з пажаданнем новага Кастрычніка

7 лістапада, як вядома, больш не з'яўляецца дзяржаўным святам на Беларусі. Але тым, хто лічыць гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі выдатнай падзеяй, ніхто, зразумела, не забараняў адзначаць яе. Напрыклад — ускладаць кветкі да помніка правадыру, правесці дэманстрацыі пад чырвонымі сцягамі, як гэта было на мінулым тыдні ці не ва ўсіх буйных гарадах рэспублікі. Праўда, Мінскі гарвыканкам, калі выдаваў дазвол на камуністычнае шэсце па праспекце Скарыны, відаць, не разлічваў, што прыйдзецца перакрываць транспартны рух. Так што пацярпелі апалітычныя пасажыры, у якіх быў звычайны выхадны.

Напярэдадні Палітвыканкам ПКБ, Рэспубліканскі савет РСПС і ЦК ЛКСМБ арганізавалі ўрачысты сход, прысвечаны 75-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі, у Інфармацыйным цэнтры СМ Беларусі. (Дарэчы, камуністы, здаецца, атабарыліся тут і адчуваюць сябе ўпэўнена, так што неўзабаве можна будзе вяртаць будынку былую назву — Дом палітасветы). Каляровыя паштоўкі з лічбай 75 разам з запрашэннямі на адмысловай паперы разаслалі па розных адрасах, не забыўшыся, між іншым, і пра «ЛіМ». Што ж, у прынцыпе круглая дата сапраўды давала падставу яшчэ раз азірнуцца на шматпакутнае мінулае, задумацца над днём сённяшнім і наступным.

Якія ж высновы зрабілі для сябе камуністы? Што прапануюць працоўным? А вось такія, напрыклад, заклікі: «Кто не работает — тот не ест! От каждого по способности — каждому по труду!.. Не настала ли пора объединиться и восстановить власть Советов рабочих, крестьян, специалистов и служащих с их избранием в трудовых коллективах и отзывом в любое время?..

Да творчеству, созиданию,... сохранению Союза Советских Социалистических Республик!..

Власть трудового народа будет восстановлена!» Гэта — з лістоўкі аргкамітэта свята, падпісанай першым сакратаром Мінскага гаркама ПКБ Я. Лепёшкам. Такая лістоўка магла з'явіцца гэтымі днямі ў Маскве, Санкт-Пецярбурзе, дзе заўгодна. Але распаўсюджвалася яна ў сталіцы незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Успомнілася, як нядаўна спікер нашага парламента, не стрываўшы абразлівых слоў аднаго дэпутата ў афіцэрскіх пагонах, які назваў бел-чырвона-белы сцяг «фашысцкім», грукнуў кулаком па стале. Ды то была чыста эмацыянальная рэакцыя. Даўно наспела пара даць прававую ацэнку заклікам аднавіць СССР, «аднавіць уладу працоўнага народа» (г. зн.— гвалтам адабраць яе ў існуючых канстытуцыйных органаў?)

Неўзабаве Вярхоўны Савет будзе разглядаць пытанне аб аднаўленні дзейнасці Камуністычнай партыі Беларусі. Не выключана, што ў выніку рэспубліка займее адразу дзве легальныя кампартыі — ПКБ і КПБ/КПСС. Тады, відаць, для правядзення сумесных святочных мерапрыемстваў гэтых партый аднаго праспекта Скарыны ўжо не хопіць?

**В. Т.**



Фота М. УРУБЛЕЎСКАГА.

# II з'езд Грамады адбудзецца ў снежні

Пленум Цэнтральнай Рады БСДГ вырашыў правесці другі з'езд Грамады ў Мінску з 18 па 20 снежня 1992 года, прычым 5 снежня 1992 года склікаць перадз'ездаўскую канферэнцыю.

Удзельнікі пленума абмеркавалі сацыяльна - палітычнае становішча ў нашай краіне, што склалася пасля забароны Вярхоўным Саветам Беларусі правядзення рэферэндуму.

Пленум прыняў Заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца:

«Падзеі 29 кастрычніка 1992 года, калі ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь разглядалася пытанне «Аб прапанове групы грамадзян Рэспублікі Беларусь аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму», яскрава паказалі, што Вярхоўны Савет не здольны да выканання ўласнаручна прынятых законаў. Няўклюдныя спробы доказу асобных дэпутатаў, што ініцыятары правядзення рэспубліканскага рэферэндуму дапусцілі грубыя парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні («рэферэндуме») ў Рэспубліцы Беларусь», юрыдычна неабгрунтаваныя і настолькі ж непрыстойныя наскокі на Цэнтральную камісію па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь і яе кіраўніка ёсць ні што іншае, як палітыканства дзеля ўтрымання ў карыслівых мэтах на вяршыні ўлады».

Цэнтральная Рада БСДГ у сваёй заяве выказвае пратэст супраць парушэнняў законаў Вярхоўным Саветам і лічыць па-ранейшаму неабходным змагацца законнымі сродкамі за змену цяперашняга складу Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь шляхам датэрміновых выбараў.

ЛІСТ З НЬЮ-ЙОРКА

# Святкуюць беларусы Амерыкі

11-га кастрычніка Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Амерыцы адзначала ў адзін дзень угодкі некалькіх важных падзей сваёй гісторыі.

Найвыдатнейшая з іх — гэта 1000-годдзе пачатку Беларускае Праваслаўнае Царквы і Хрысціянства на Беларусі ўвогуле, лічачы ад заснавання епіскапскае кафедры ў Полацку ў 992-м годзе.

Апрача таго, сёлета —70-я ўгодкі Краёвага Сабору, што адбыўся ў 1922-м годзе ў Менску й абвясціў аўтакефалію (незалежнасць) Беларускае Праваслаўнае Царквы, ды 50-я ўгодкі Сабору тамсама ў 1942-м годзе, што гэтую аўтакефалію пацвердзіў.

Разам з успомненымі датамі мінула яшчэ 20 год ад узвышэння Саборам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Амерыцы ў 1972 годзе сёння ўжо памерлага архіепіскапа Андрэя Крыта на мітрапалічы пасад, а гэтым чынам і ўзнаўлення самастойнае беларускае, раней званае літоўскае, мітраполіі.

Святкаванне юбілеяў адбылося ў Катэдральным Саборы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы імя Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне (раён Нью-Йорка).

Пачалося яно Св. Літургіяй, якую ўраніцы адправіў Яго Міласць Мітрапаліт Ізяслаў разам з прыбылымі на ўрачыстасць епіскапамі Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з Тэхаса — іх Міласцямі Макарыёсам і Цімахвеем.

Услед за Св. Літургіяй быў адпраўлены малебен за Божую ласку над Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою ды Беларускім народам.

Яго Міласць Мітрапаліт Ізяслаў прывітаў прыбылых на ўрачыстасць гасцей: іх Міласцяў епіскапаў Макарыёса і Цімахвея, ды гераманаха Інакенця з Тэхаса, а таксама прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь: амбасадара ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў спадара Генадзя Бураўкіна з жонкай, міністра фінансаў — спадара Сцяпана Янчука, старшыні Камітэта па статыстыцы — спадара Уладзімера Нічыпаровіча, ды консула — спадара Леаніда Каравайка.

Пасля прывітання гасцей і прысутных вернікаў Яго Міласць Мітрапаліт Ізяслаў у прынагодным слове зрабіў кароткі агляд важнейшых этапаў гісторыі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ад заснавання ў 992 годзе па сённяшні дзень ды выказаў упэўненасць, што Яна будзе ўзноўленая на Бацькаўшчыне.

Былі зачытаны пісьмовыя пажаданні ад Яго Святасці Мсціслава 1-га — Патрыярха Кіеўскага й ўсяе Украіны, Яго Міласці Мітрапаліта Праваслаўнае Царквы ў Амерыцы Хвядоса, іх Міласцяў архіепіскапа Антонія й епіскапа Паісія з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Яго Міласці епіскапа Ўсевалада з Украінскае Праваслаўнае Царквы ў юрысдыкцыі Усяленскага Патрыярха ды ад Сіноду Міласці епіскапа Іларыёна, а таксама ад парахвіяў і манастыроў розных юрысдыкцыяў.

Потым ад Прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў цёплымі словамі прывітаў Яго Міласць Мітрапаліта Ізяслава й вернікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы амбасадар Генадзь Бураўкін і выказаў ім з нагоды свята найлепшыя пажаданні.

Адказваючы амбасадару на прывітанне, Яго Міласць Мітрапаліт Ізяслаў выказаў ягоную й усіх вернікаў падзяку за прыязныя дачыненні, што стварыліся паміж Прадстаўніцтвам і Беларускаю Аўтакефальнаю Праваслаўнаю Царквою, за гасцінцы, якімі Прадстаўніцтва шчодрыць усе, у гэтым ліку й сённяшнюю, царкоўныя ўрачыстасці, ды як сціплы знак павагі да дзейнасці Прадстаўніцтва й на напамін хрысціянскіх традыцый Беларускае Дзяржаўнасці перадаў амбасадару Генадзю Бураўкіну з найлепшымі пажаданнямі абрамаваны здымак малюнка мастака Станіслава Конаш-Канашэвіча «Хрост Беларусі».

Апрача гэтага, Яго Міласць Мітрапаліт Ізяслаў абдарыў прысутных прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь кнігамі гісторыі Новага Запавету.

На заканчэнне афіцыйнай часткі ад Епархіі Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Тэхасе й Манастыра Чатырох Эвангелістаў у Х'юстане прывітанні выказаў правячы епіскап Яго Міласць Макарыёс, далучаючы да іх глыбокія зместам словы павучэння й заахвочвання да трываласці ў працы на Божай ніве.

Пасля гэтага была канцэртная частка, у якой спевакі Уладзімер Бучэль і Алесь Казак прапяялі пабожныя і народныя, а таксама створаныя беларускімі кампазітарамі песні.

Святкаванне закончылася малітвай. Вернікі разышліся духова ўзмацаваныя да далейшай працы на захаванне ды разбудову роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

**Барыс ДАНІЛЮК.**

Нью-Йорк.

# У Крашыне, па-над Шчарай...

Заўтра — яшчэ адно паэтычнае свята. Не мясцовага значэння, а рэспубліканскага. У Крашыне Баранавіцкага раёна, па-над Шчарай-ракой, дзе прайшло жыццё выдатнага сына беларускага народа Паўлюка Багрыма. Паэта, сапраўднага самародка. Пасля яго, на жаль, засталіся ўсяго два творы. Знакаміты верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» і не менш знакамітая жырандоля.

Усяго два творы і, разам з тым,—цэлы свет. Літаратуры, мастацтва, гармоніі. Яму з гадамі не бляknуць, а выкрышталізоўвацца ўсё новымі і новымі гранямі. Цяпер, у сувязі са 180-годдзем з дня нараджэння П. Багрыма, гэта можна сказаць пэўна. Пра гэта і будзе гаварыцца заўтра на свяце, у якім прымуць удзел вядомыя пісьменнікі, дзеячы нацыянальнай культуры, народныя майстры. У тым ліку і кавалі, прадаўжальнікі майстэрства П. Багрыма. Яны прыедуць з Глыбокага на чале з прэзідэнтам Рэспубліканскай асацыяцыі кавалёў імя П. Багрыма Аляксандрам Дубінам. Пакажуць, на што здатныя і ўмельцы Баранавіцкага раёна.

Даехаць да Крашына можна на электрычках, што ідуць у бок Баранавіч. Сыходзіць трэба на прыпынку «Перамога». Пачатак свята — у 11 гадзін.

**Паўлюк БАГРЫМ**

●

**Зайграй, зайграй, хлопча малы,**
**І ў скрыпачку і ў цымбалы,**
**А я зайграю ў дуду,**
**Бо ў Крашыне жыць не буду.**

**Бо ў Крашыне пан сярдзіты,**
**Бацька кіямі забіты,**
**Маці тужыць, сястра плача:**
**«Дзе ж ты пойдзеш,**
**небарача!..»**

**Дзе я пайду! Мілы Божа!**
**Пайду ў свет, у бездарожжа,**
**Ў ваўкалака абярнуся,**
**З шчасцем на вас азірнуся.**

**Будзь здарова, маці міла!**
**Каб ты мяне не радзіла,**
**Каб ты мяне не карміла,**
**Шчаслівўшая ты бы была!**

**Каб я каршуном радзіўся,**
**Я бы без паноў абыўся:**
**У паншчыну б не пагналі,**
**У рэкруты б не забралі**
**І ў маскалі не аддалі.**



Жырандоля П. Багрыма.

**Мне пастушком век не быці,**
**А ў маскалях трудна жыці,**
**А я і расці баюся,**
**Дзе ж я, бедны, абярнуся!**

**Ой, кажане, кажане!**
**Чаму ж не сеў ты на мяне!**
**Каб я большы не падрос**
**Ды ад бацькавых калёс.**

# МАСКОЎСКІ ПАДАРУНАК...

У грашовае абарачэнне пушчана памятная манета вартасцю адзін рубель, прысвечаная 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. На адваротным боку яе змешчана рэльефнае адлюстраванне народнага песняра ў кашулі з беларускім нацыянальным малюнкам, злева і справа ад яго лічбы: «1882» і «1956», а ўнізе па крузе надпіс: «Якуб Колас».

Гэта — на адваротным баку. На ліцавым жа — таксама рэльефнае адлюстраванне, ды толькі купалаў сабора Пакрова на рове на фоне Спаскай вежы і двухгаловага арла. Ды яшчэ таварны знак манетнага двара «ЛМД».

І здзіўляцца падобнаму суседству няма падстаў, бо юбілейную манету ў абарот пусціў... Цэнтральны банк Расійскай Федэрацыі, аб чым, дарэчы, і сведчыць на тым жа ліцавым баку надпіс «Банк Расіі».

Ёсць, праўда, прымаўка: «Дараному каню ў зубы не глядзяць».

І яшчэ адно пра гэты «падарунак». Манета будзе прымацца пры ўсіх відах плацяжоў па намінальным кошце. Прадаецца ж (1 мільён штук!) — па калекцыйным!

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Ці выратуе Дзяржцырк нацыянальная сімволіка?

Сёння пра беларускую культуру гавораць шмат і многія. Прыкметай добрага тону ў грамадстве становіцца імкненне дзе магчыма і дзе не вельмі магчыма навесці, так бы мовіць, касметычную нацыянальнасць. Замацаваўся стэрэатып, паводле якога асновай нацыі ёсць мова, звычаі (абрады) і этнаграфічная аздоба... Сёння прыкметай добрага тону сярод беларускіх інтэлектуалаў з'яўляецца таксама вядомы недавер да таго, што сказана і напісана расійскімі філосафамі і мысліцелямі. Адзін з іх, дарэчы, заўважыў: «Истинная национальность состоит не в описании лаптей да сарафана, а в духе народа». Дзе ж наш, беларускі дух?

Усё-такі «ўсё» зыходзіць з душы чалавека і паступова выражаецца ў матэрыяльных прадметах, створаных чалавекам — носьбітам тае, першаснае, ДУХОЎНАЕ культуры. Матэрыяльная культура ёсць вытворная ад культуры духоўнай. Безумоўна, і беларускія арнаменты, і гістарычныя святы, і абрады — культура, але яшчэ большая культура сканцэнтравана ў сэрцах і думках людзей, што ствараюць гэтыя эстэтычныя рэліквіі. Мы ж, спавядальнікі Адраджэння, бяромся ісці як бы адваротным шляхам: да цяперашняй духоўнасці прылучаем ранейшую матэрыяльную атрыбутыку беларусаў. Ці не сізіфавыя гэта высілкі?

Зрэшты, людзі ў пэўнай ступені ўжо настроены ўспрымаць нацыянальную сімволіку, як адзнаку лаяльнасці носьбіта сімволікі да нацыянальнага адраджэння, як доказ ягонай беларускасці. Але гэта ў многіх выпадках далёка не так... Нашу сімволіку прадаюць і купляюць за грошы, за пасады, за магчымасць дамагчыся асабістых і не заўсёды бескарыслівых мэт, зрабіць кар'еру ў Рэспубліцы Беларусь. Беларуская сімволіка выконвае функцыю своеасаблівага пропуска да поспеху; яна — надзейная рэклама мо й не надта якаснай знутры прадукцыі...

У Дзяржаўным цырку, да прыкладу, паказалі новую праграму, нібыта нацыянальную, беларускую. Пасля яе прагляду, аднак, у мяне склалася ўражанне, што ідэя «нацыяналізацыі» цырка ўзнікла таму толькі, што трэба было закрыць белыя пляміны ў праграме, — дзеля праформы, маўляў, вось і цырк, як і ўсе навокал, кіруецца на шляхі Адраджэння... Але скажыце сабе: «Цырк!»— і ў галаве замільгаюць незгарагодныя выкрунтасы акрабатаў, «Цырк!» — і мы ўяўляем урачыстае шэсце дзівоснага звяр'я — тыграў, сланоў, мядзведзяў з медзведзянятамі... Цэлы жывёльны сусвет на маленькай арэне. А яшчэ ў цырку мы павінны дзівіцца на незвычайныя здольнасці чалавечыя — назіраць факіраў і фокуснікаў, смеюноў і дрэсіроўшчыкаў. Хіба я памыляюся?

Памянёнае ж прадстаўленне ў цырку ператварылася ў тэатралізаванае шоу («вялікае ілюзійнае шоу») з прыезджымі артыстамі, беларускай атрыбутыкай і канцэртнымі нумарамі фальклорнага ансамбля «Кола». Не маю нічога супраць «Кола» ці спектакля, аднак жа гэта ў цырку, у цырку... Можна зразумець «цыркачоў»: складаны час, чалавека накарміць праблематычна, не тое што звера, ды й зарплата ў артыстаў ахавая. Але няўжо ж выйсце ў эксплуатацыі нацыянальнай сімволікі!?.

Магчыма, выкажу спрэчную думку, ды ўсё ж: цырк не можа быць нацыянальным у прынцыпе. Гэтаксама як мядзведзь не можа быць ані беларускім, ані польскім, ані яўрэйскім. Гэтаксама як сабачыя гулі на арэне цырка не залежаць ад таго, які касцюм на выканаўцах — беларускі ці кітайскі. Цырк па-за нацыянальным, цыркавое мастацтва спажываецца хутчэй падсвядомасцю, чым свядомасцю. Цырк **аб'ядноўвае**. І ў гэтым, мабыць, яго галоўная сіла. Гэтая сіла мала залежыць ад выкарыстоўваемай у цырку сімволікі.

**Ганна ХАРУЖАЯ,**
**студэнтка 5-га курса**
**факультэта**
**журналістыкі БДУ.**

# Запытайцеся і ў мяне

Апошнім часам, у тым ліку і на праходзячай сесіі ВС, зноў узнімаецца пытанне аб мовах у рэспубліцы. У адрозненне ад былога СССР, дзе руская мова была прынята «как средство межнационального общения», гэтую ж фармулёўку спрабуюць прымяніць і ў адносінах да нашай рэспублікі. Ва ўсёй гэтай неразбярысе бачыцца спроба пэўных сіл надаць рускай мове статус дзяржаўнай. Адзін з дэпутатаў на поўным сур'ёзе заявіў, што рускую мову, маўляў, павінны вывучаць таму, што яна з'яўляецца афіцыйнай мовай ААН. Але дэпутат, мабыць, не чытаў Дэкларацыі правоў чалавека. Чаму я павінен вывучаць рускую мову? А, можа, мне падабаецца больш іспанская ці французская, таксама афіцыйныя мовы ААН? Акрамя дзяржаўнай мовы, якую павінны ведаць усе жыхары рэспублікі, кожны чалавек можа вывучаць такую мову, якая яму падабаецца. Таму лічу, што з гэткім жа поспехам можна весці прапаганду аб увядзенні ў нас турэцкай мовы як «средства межнационального общения». Напэўна, нідзе ў свеце не праводзілася і не праводзіцца палітыка зліцця моў, і жыхары якой-небудзь Даніі ці Швейцарыі, якія не размаўляюць на «великом и могучем», ніколькі не адчуваюць сябе пакрыўджанымі...

**В. ШАЎРОЎ.**

г. Гродна.

# Летаргічны сон — яшчэ не смерць

Горад Койданава быў амаль чужы для мяне, хоць я і нарадзілася ў невялікай вёсачцы каля яго. І вось пасля працяглых вандровак я вярнулася ў Койданава на сталае жыхарства. Нанова пачынала знаёміцца з гісторыяй горада, яго людзьмі, яго забудовай. Апошняе мы спазнавалі на сваім карку, праз пот і слёзы, праз нервовыя ўзрушэнні ды хваробы, цягаючы нажытую маёмасць з адной хаты ў «врэмянку», пасля ў «абшчагу». Нарэшце прыпыніліся ў новым раёне горада. Вось тут мяне і чакала адкрыццё Койданава. Мой бацька, ідучы на агледзіны нашага новага прыстанішча, паказаў рукою ў бок ускраіны горада: «Унь там жылі Кісялі. Валя — сястра маёй мамы-нябожчыцы. У іх была вялікая сям'я. Усіх пабілі немцы. Мы кожны раз заязджалі да Кісялёў, як ехалі на базар. Трэцяя ці чацвёртая хата з краю». Мне закарцела даведацца больш падрабязна пра гэту трагедыю. Потым бацька расказаў, што з дзяцей Валі і Франака ён памятае толькі старэйшага Ваціка, свайго аднагодка, ды Аню — вельмі прыгожую дзяўчыну гадоў 16—17 на час вайны. Астатніх сваіх стрыечных братоў і сясцёр яго памяць не захавала, яны былі на той час малечамі, не вартымі ўвагі бацькі, тады маладога хлопца, кавалера.

Грымнула вайна. Ваціка забралі ў паліцыю. Немцы тады шмат вербавалі сабе маладых хлопцаў. Пасля, відаць, прабраўся нейкі агітатар-камуніст да іх, ды перацягнуў на свой бок. Пайшлі хлопцы ў партызаны. І Вацік пайшоў. Нехта, мабыць, выдаў яго сям'ю. Жорсткая расплата наступіла адразу ж. Прыйшлі эсэсаўцы з аўтаматамі ды пагналі іх на яўрэйскія могілкі, што месціліся цераз дарогу, якраз насупраць іхняй хаты. Ішлі бацькі, вялі дзяцей, зусім малых неслі на руках. Усіх іх пабілі.

А Аню спасціг яшчэ больш жудасны лёс. Яна зграбала сена, вярталася дахаты. І ніхто не сказаў, што няма ўжо на свеце родных яе... Спаткалі яе нелюдзі, здзекаваліся, сабаку пускалі... Не ведаюць людзі, дзе й пахавана.

А Вацік быў у партызанах. Ехаў на кані ля Нёмана. Тут немцы пачалі страляць. Ён Нёман хацеў пераплыць, ды ўтапіўся. Вось так. Нікога з сям'і не засталося.

А ў хаце Кісялёў пасля вайны жылі нейкія далёкія сваякі, што прыехалі з высылкі. Яны бяздзетныя былі. Пасля іх пляменнікі хату прадалі нейкім людзям: яна — настаўніца, ён — шафёр. Дзяўчынка ў іх маленькая. Хату дабудавалі, абпажылі цэглай.

Праз колькі дзён, добра распытаўшы людзей, я выправілася шукаць былыя могілкі. І знайшла, і ўбачыла. На іх месцы — вуліца імя героя грамадзянскай вайны, прыгожыя катэджы, каля многіх гаражы з машынамі. Добраўпарадкаваная, чысценькая вуліца, клапатліва абсаджаная дрэўцамі. У кожнага свой агародчык. Ціха, бы на могілках. Вуліца схавана ад гарадскога шуму

Стаяў пагодлівы восеньскі дзень. Амаль у кожным двары корпаліся людзі. Я нічога не пыталася ў іх, хоць пытанняў было шмат. Як сябе пачуваюць гэтыя людзі, пасяліўшыся на людскіх касцях? Ці не выкопваюць яны іх з зямлі? Што ім сніцца начамі?

Мая мудрая цётка, якой я шмат чым абавязана, казала так пра час і пра сябе: «Не цікавіліся мы дзядамі сваімі, прадзедамі. За працай свету не бачылі. Пыталіся толькі ў бацькоў, калі араць, калі сеяць».

Так, не пыталіся, не цікавіліся, Бога не баяліся. Таму і заснулі летаргічным сном. Не бачылі, не чулі, як горад перайменавалі ў Дзяржынск, як зруйнавалі магільныя пліты ды помнікі і пасялілі на яшчэ зусім свежых касцях нас, манкуртаў.

Нічым, нічым я ўжо не дапамагу маім далёкім сваякам, дзякуючы якім чужы горад стаў такім блізкім. Хіба што расказаць усім людзям добрым? Каб тыя прачнуліся нарэшце; каб успомнілі, хто яны, і заплакалі слязьмі пакаяння. Не, гэта не наіўнасць. «Багатыя таксама плачуць», — вось дзе, я б сказала наіўнасць, мяжуючая з вар'яцтвам. У нашай раённай газеце адзін з чытачоў нават прапанаваў зрабіць святам дзень заканчэння серыялу «Багатых».

А свята будзе, я лічу, тады, калі ўшануюць памяць ахвяр таго згубнага часу, замест таго, каб выстаўляць галовы Леніна і Дзяржынскага на здзек варонам. Тады, калі вернуць спрадвечную назву гораду, украдзеную ў нас, пакуль мы спалі, калі прыбяруць, нарэшце, жахлівыя шыльдачкі з нашых вуліц. Пісаныя не наркомаўкай, не тарашкевіцай, а, мабыць, «дзяржынкай», наскрозь камуністычныя і ленінскія — яны ніяк не адлюстроўваюць ні шматвяковай гісторыі горада, ні асаблівасцей яго забудовы, не арыентуюць прыезджага чалавека. Яны нас дэзарыентуюць, усыпляюць, а цвярозага чалавека прыводзяць у жах. Свята будзе, калі прачнецца наша гістарычная памяць.

**Ганна МАТУСЕВІЧ.**

г. Дзяржынск.

# Кніга-сувенір

Вядома, што каштоўным падарункам з'яўляецца рэдкая, прыгожа выдадзеная кніга. А як прыемна трымаць у руках малафарматную кніжку-малютку, тэкст у якой надрукаваны на розных мовах.

Вось у маёй сціплай бібліятэчцы ёсць кніжачка «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат», дзе абодва творы надрукаваны на беларускай і рускай мовах; «Тарасова доля» і «Курган» Я. Купалы — абедзве кніжкі на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах; «Свіцязянка» А. Міцкевіча — на беларускай, польскай і рускай мовах; «Лірыка» П. Броўкі — на беларускай і рускай мовах. Лічу, што падобныя выданні будуць садзейнічаць вучням, студэнтам, ды і ўсім зацікаўленым людзям у азнаямленні з мастацкімі творамі аўтараў суседніх славянскіх краін, вывучэнні і разуменні мовы другой дзяржавы. Прыемна падарыць такую мнагамоўную кніжку сябру з Расіі ці Украіны, а гасцям нашай рэспублікі — прыдбаць такі сувенір.

Вядома, падобныя кніжкі можна выпускаць і на іншых мовах, асабліва таго аўтара, які з'яўляецца гонарам некалькіх народаў (той жа Адам Міцкевіч).

Выданню шматмоўных кніжак і альбомаў павінны ўдзяліць большую ўвагу нашы выдавецтвы, бо карысць гэтай работы — відавочная. Кніга — лепшы падарунак і сувенір, чым «матрошкі», слонікі, фужэры...

**А. АНЦІПОВІЧ.**

г. Мінск.

# «Бо гаварыць будзеце на вецер...»

Хачу падзяліцца з чытачамі «ЛіМа» некаторымі сваімі думкамі і назіраннямі ў пытаннях нацыянальнага адраджэння і беларусізацыі навучальнага працэсу ўстаноў культуры. У прыватнасці, спынюся на тым, як гэта адбываецца ў Мінскім інстытуце культуры, да якога маю дачыненне.

Непрыемна канстатаваць, але факт, што нашай ВНУ пытанне ўвядзення выкладання на дзяржаўнай мове выклікае, мякка кажучы, прыхаванае супраціўленне і нежаданне кіраўніцтва і многіх выкладчыкаў рабіць штосьці ў гэтым накірунку. І хаця ў чэрвені г. г. праводзілася спецыяльная атэстацыя сярод выкладчыкаў на прадмет валодання беларускай мовай на лекцыях і семінарах, у большасці сваёй выкарыстоўваецца ўсё ж руская. Аргументы на карысць гэтага прыводзяцца розныя. І самы важкі, які даволі часта даводзіцца чуць: «На белорусском будет трудно профессионально преподнести материал». І падобнае кажуць адукаваныя людзі, многія з якіх маюць навуковыя ступені і пасады. Вельмі крыўдна, што адбываюцца гэтыя з'явы ва ўстанове культуры, якая сапраўды павінна б была стаяць у авангардзе сённяшняга адраджэння нацыі. Сам навучальны працэс, лічу, яшчэ вельмі і вельмі недасканалы, каб даць хоць нейкія вынікі ў выхаванні сапраўднага патрыёта сваёй Радзімы, здольнага, пасля заканчэння інстытута, несці і ствараць тыя культурныя каштоўнасці, без якіх немагчыма існаванне самой нацыі. Упэўнены, што кіраваць такім працэсам павінны людзі, адданыя справе адраджэння духоўнасці, якія вераць у сапраўдную годнасць беларуса, як прадстаўніка высокай еўрапейскай культуры. Менавіта тыя людзі, для якіх розныя грашовыя стымулы стаяць, ва ўсялякім выпадку, не на першым месцы.

Ну, а пакуль усё застаецца амаль па-ранейшаму. Беларуская музыка і літаратура, напрыклад, на факультэце мастацкай творчасці выкладаецца толькі пасля адпаведнага азнаямлення з рускай і замежнай. Справа часам даходзіць да абсурду, калі ідэі шавінізму і «великороссийства» адкрыта прапагандуюцца на лекцыях, музыканты амаль не карыстаюцца беларускім рэпертуарам, калі ён амаль адсутнічае ў бібліятэцы, і г. д.

Дарэчы, варта ўспомніць, што яшчэ сёлета ўвесну інстытут наведвала камісія на чале з намеснікам старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і ЗГС А. Трусавым. Як хутка ўсё заварушылася: дакументацыя, афармленне, выкладанне, свядомасць, прапановы, пажаданні... Але з'ехала камісія і, як у былыя часы, наступіў «ранейшы спакой». Маўляў, не варта, панове, хвалявацца, застанёмся «інтэрнацыяналістамі». Дык на карысць каго такі інтэрнацыяналізм? Можа, на карысць тых беларусаў, якія не могуць атрымаць у сваёй краіне адукацыі на роднай мове? Альбо тых, хто не жадае выконваць маральныя абавязкі і свядома ігнаруюць закон? Лепей бы засвоілі з Евангелля святыя словы Апостала Паўла да Карынцянаў: «...Так жа калі б труба давала голас няведама які, хто ж пачне рыхтавацца да бітвы? Таксама і вы калі б праз мову не далі яснае навукі, як будзе пазнана тое, што гаворыцца? Бо гаварыць будзеце на вецер» (І Кар. 14; 8—9).

**А. ГУСЕЎ,**
**студэнт 4 курса МІК.**

# Манкурт не можа вучыць дзяцей

Шаноўны «ЛіМ»! Зараз зноў узнялася хваля ў абарону «няшчаснай» рускай мовы. А ці можа дазволіць сабе цывілізаваны чалавек ганьбіць чужую мову? Вядома — не. Які ж трэба мець узровень адукацыі, які культурны і духоўны ўзровень, каб гаварыць па радыё, выступаць з трыбуны Вярхоўнага Савета і пісаць лісты ў газету, ганьбячы беларускую мову? За сваё жыццё яшчэ не чуў, каб нейкі народ грэбаваў сваёю моваю, ці горш таго — адрокся ад яе. А ў нас можна мову судзіць, напісаць абразлівы ліст у газету — напэўна, каб паказаць усім сваю дурноту.

Дачка з другога класа вывучае родную мову і раз на тыдзень французскую. Дык мне здаецца, што па-французску больш ведае, чым па-беларуску. Таму што французскую выкладае адпаведны настаўнік. А родную мову хто выкладае да чацвёртага класа? Усё тая ж рускамоўная настаўніца, якая сама мовы не ведае і зняважліва да яе ставіцца. Чаму ж родную мову ад пачатку не выкладаюць спецыялісты, а манкурты, якія працуюць на чужую мову і культуру, якія не ведаюць нашай гісторыі?

Ніколі беларуская справа не зрушыць з месца, пакуль на чале яе не будуць стаяць свядомыя беларусы, тыя, каму неабыякавы наш край.

**Ю. ФРАНКОЎ.**

г. Віцебск.

# Актуальная аналогія

**Я атрымаў ліст ад свайго сябра, настаўніка матэматыкі з іспанскай правінцыі Каталонія. Адтуль, дзе нядаўна праводзіліся Алімпійскія гульні. Лёс каталонскай нацыі вельмі падобны на наш. Не ўпершыню ў гісторыі гэтага народа ўціск з боку «старэйшага брата» станавіўся зусім нязносны: дыктатар Франка абвясціў, што каталонцаў няма, што каталонская мова — няправільная іспанская (касцільская) і г. д. Зараз там пачалося нацыянальнае адраджэнне, ёсць нават рух за поўную незалежнасць ад каралеўства Іспанія. Можа, і чытачам будзе цікава пазнаёміцца з гэтым лістом, у якім гучыць вельмі актуальная аналогія. Перакладаючы яго для «ЛіМа» я апусціў толькі некалькі фрагментаў прыватнага характару.**

**Валерый БУЙВАЛ.**

«Якая вялікая радасць! Ваш народ вярнуў сабе незалежнасць! Так хочацца даведацца пра вашу гісторыю, мы яе зусім не ведаем. Хочацца ведаць больш падрабязнасцей пра ваш народ. Якія зараз адносіны з Масквой?

Уяўляю, колькі перад вамі ўзнікла праблем. Немагчыма ў адно імгненне пераадолець спадчыну стольніх год савецкага панавання. А яшчэ ўлічыць, у які час мы жывём, калі цяжка ўсім, а вам, відаць, яшчэ цяжэй. У Каталоніі адбывалася нешта падобнае, калі ў 1975 годзе памёр Франка. Многія лічылі, што «за Франкам жылося лепш». Думаю, наўрад ці дыктатура можа быць лепшай за дэмакратыю. Ідэальнай сістэмы не існуе. Людзі ў Беларусі думаюць, што «раней жылося лепш»? Ці ёсць у вас тыя самыя ілюзіі, што год таму?

У Каталоніі прайшлі Алімпійскія гульні. На цырымоніях адкрыцця і закрыцця былі вельмі хвалюючыя для нас, каталонцаў, моманты, калі гучаў наш нацыянальны гімн і наш спеў пад сцягам. Гэта было для нас, не для свету».

**Марці Бафіл ПАРЭРАС,**

г. Палафружэл, Каталонія.

# Без веры нам не выжыць...

«Русскоязычный» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь праігнараваў волю некалькіх соцень тысяч грамадзян нашае краіны, прыняўшы рашэнне супраць правядзення ўсенароднага плебісцыту. Я — ды, пэўна, не толькі я — уважліва слухаў «красамоўства» камуністычнай наменклатуры. Спярша яны настойліва прасоўвалі разбуральную ідэю — яе нават падчас камуністычнага таталітарызму не было — аб дзяржаўнасці рускай мовы ў Беларусі падчас пустых спрэчак па праекту канстытуцыі, а добра раз'ятрыўшыся, з узноўленым пачуццём «тесной сплоченности», як бык на чырвонае, абрынуліся на ідэю рэферэндуму.

Нікчэмнасць сцвярджэння аб парушэннях закона пры зборы подпісаў відавочная: бо калі б такія парушэнні былі, то камуністычныя сродкі інфармацыі тут жа раструбілі б іх на ўвесь свет, дужа гэта было б выгадна ў святле тэорыі «БНФ рвется к власти». Зборшчыкі подпісаў, калі толькі яны не былі праванатарамі, пазбягалі любых недакладнасцяў, бо ведалі, што пераглядаць подпісы будуць «з мікраскопам».

На адным з лістоў у нас паставіў свой подпіс калгасны аграном. Старшыня сельсавета, убачыўшы яго імя, здзівіўся: чалавек быццам бы свой, г. зн. «іх» і рабіць такога глупства не павінен... І адмовіўся паставіць пячатку на ліст. Не ведаю, якая «работа» была праведзена з наіўным аграномам, але ад старшыні сельсавета я пачуў потым, што яму аграном быццам бы сказаў, што ліст ён не падпісваў. Значыць, на думку старшыні, мы нейкім чынам выкралі пашпарт агранома, падрабілі подпіс і г. д. Ідыятызм такой «логікі» відавочны, але — яму не дакажаш. Адмяталіся ўсе лісты з незнаёмымі старшыні прозвішчамі (!), так што фальшывы ліст проста не мог трапіць. З аднаго боку — гэта і добра, бо камуністы фільтравалі самі, значыць прапускалі толькі ЗАКОННАЕ, САПРАЎДНАЕ. Так што тут канцы не сходзяцца.

Тады навошта было б разбягацца «русскоязычному» Вярхоўнаму Савету ўвесну на г. зв. «канікулы», калі яшчэ не ўвесь парадак дня быў вычарпаны? Прычына была толькі адна: подпісы былі сапраўднымі, пытанне пра рэферэндум вісела дамоклавым мечам, метады і абгрунтаванні адмовы ў яго правядзенні не былі прыдуманы; прыйшла каманда: «товарищи, спасайтесь!» І «товарищи спасанулись».

Адкінуўшы прэч элементарную прыстойнасць, прадстаўнікі камуністаў публічна зневажаюць наш сцяг і герб. Нянавісць апанавала імі.

Адвучаны ад уласнага «Я» народ маўчыць, гледзячы расейскія праграмы тэлебачання. Інтэлігенцыя цынічна разважае, маўляў, гэтыя зладзеі нагрэбліся і здаволіліся, а новым трэба будзе яшчэ награбсціся. Так што лепей не пэцкацца ні з тымі, ні з гэтымі.

Калі людзі не шукаюць выйсця і не ведаюць дзе яго трэба шукаць — чакай горшага.

**Мікола БУСЕЛ,**
**настаўнік.**

в. Дуброва
Светлагорскага р-на.

**З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ**

**Традыцыя** — вялікая справа не толькі для народа, але і для асобнага чалавека. Ці не ўсё каштоўнае ў сферы духоўнасці ўзнікае на падставе традыцыі. Набліжэнне чарговых угодкаў Кастрычніка само па сабе таксама стала для трох пакаленняў былых «савецкіх» людзей своеасаблівай традыцыяй. Традыцыяй, якая змяшчае ў сабе неабходныя словаслоўі і падсумоўвае «выніні працоўнай славы». І так было з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе. Колькі ж было за гэтыя гады ажыццёўлена «мерапрыемстваў» у гонар Вялікага Кастрычніка! Колькі было надрукавана тысяч старонак у кнігах, брашурах, часопісах, колькі ж знята тысяч метраў кінастужкі. колькі праведзена шэсцяў пад кумачовымі сцягамі! І колькі ва ўсім гэтым патрачана энергіі і сілы народа...

Без сваёй волі (а большасць і з радасцю — свята ж!) у гэта былі ўцягнуты практычна ўсе ўзросты — і старэйшае, і сярэдняе, і малодшае, і нават самае малодшае (акцябраты) пакаленні. І таму, калі зноў падыходзіць Кастрычнік і зноў лунае на плошчы кумачовы сцяг, міжволі ў іх сэрцах з'яўляецца моцная настальгічная туга, і гэта трэба разумець зусім не для здзеку, а для спачування. Таму што большасць народа нашага, абалваненага бальшавіцкай прапагандай на працягу трох чвэртак стагоддзя, ніколі ўсур'ёз не задумвалася над сутнасным зместам Кастрычніка, а ставілася да яго надзвычай проста: свята ёсць свята (да таго ж савецкае кіраўніцтва скасавала так многа свят, карані якіх цягнуцца не толькі з хрысціянскіх, але ж яшчэ з паганскіх часоў!).

Зразумела, няма патрэбы кранаць саміх ідэолагаў, якія карміліся з гэтай прапаганды — тут, як гавораць спартыўныя каментатары, усё зразумела. Але ж ёсць даволі значны атрад людзей, якія маюць навуковыя ступені і з'яўленне чыіх кніг і артыкулаў было абумоўлена наяўнасцю перамогі Вялікага Кастрычніка. Я маю на ўвазе ідэалогію, якая панавала (і гэта здавалася такім звычайным, такім натуральным)! у так званых «грамадскіх навуках» і якая, у рэшце рэшт, загубіла іх, знішчыла ўшчэнт. Амаль усе навукоўцы савецкага часу ў той ці іншай ступені «запэцкаліся» гэтай бруднай хваляй ідэалогіі, і настаў час, на маю думку, для тых з іх, якія працягваюць лічыць сябе навукоўцамі, — па хрысціянскаму звычаю ачысціцца ад бруду, пакаяцца. Заклікі на гэты конт час ад часу мы чуем у прэсе і грамадскім жыцці, але зазвычай яны накіраваны больш на другога, чым на сябе. А пачынаць трэба з сябе: так будзе і па-хрысціянску, і па-чалавечы.

Вось і аўтар спрабуе асабістым прыкладам пачаць гэтую справу. Днямі ён палічыў: у шасці ягоных публікацыях назвы адпавядаюць крытэрыю «ідэалагічнай зацікаўленасці». (Прыкладам можа служыць вялікі артыкул, надрукаваны ў зборніку МДУ ў 1969 годзе —«У. І. Ленін і крытэрыі мастацкай крытыкі»). Ну, здавалася б, нядрэнны паказчык (шэсцьса ста з нечым прац). Але трэба мець на ўвазе, што аўтар эстэтык, тэарэтык культуры, у яго ўсё-такі была магчымасць «ухіліцца» ад прамога ідэалагічнага цытавання. У некаторых жа філосафаў і палітэканомаў такой магчымасці не было, але яны спрабавалі ў цяжкія гады застою знайсці хаця б «крышачку» ісціны. І знаходзілі яе, гэтую крышачку, і перадалі наступнаму пакаленню. Ад імя іх, і перш за ўсё ад асабістага, аўтар і прадстаўляе на суд грамадскасці свае кароценькія разважанні на тэму: «Кастрычнік і культура». Як акт пакаяння і ачышчэння ў імя Сумлення і Ісціны!

**АЎТАР.**

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
доктар філасофскіх навук,
віцэ-прэзідэнт
Беларускай эстэтычнай асацыяцыі

# КАСТРЫЧНІК І КУЛЬТУРА

Праблема «Кастрычнік і культура» сёння мае багатую гістарыяграфію. Напісаны і надрукаваны сотні старонак, памечаных адбіткам заўзятай ідэалагічнай барацьбы. У афіцыйнай савецкай і марксісцкай літаратуры за мяжой, як правіла, сцвярджаецца, што Вялікі Кастрычнік адкрыў «новую эру» для развіцця культуры, што яна ніколі яшчэ так не «належала народу», што толькі ў сацыялістычным грамадстве адбылася гарманічная сустрэча чалавека і культуры. І дадамо, што сярод аўтараў, сцвярджаючых такія ідэі, былі А. Луначарскі, Д. Лукач, позні М. Горкі, шэраг савецкіх культуролагаў не без таленавітасці тыпу М. Ліўшыца і А. Сураўцава, альбо Э. Іона з нядаўняй ГДР і акадэміка Т. Паўлава з Балгарыі.

Другі бок прадстаўляе галоўным чынам эміграцыйная і «саветалагічная» прэса, дзе згодна іх ідэалагічным поглядам сцвярджалася, што два гэтыя паняцці «Кастрычнік і культура» нельга спалучаць разам, таму што яны не маюць ніякага дачынення адзін да аднаго. І тут, побач з нанятымі альбо па сваім разуменні пішучымі людзьмі, мы бачым вялікія постаці, пачынаючы ад Г. Рыда і П. Струве і канчаючы празарліўцамі-мастакамі тыпу Дж. Оруэла.

На самай справе сітуацыя выглядае значна прасцей і адначасна больш глыбінна: канечне ж, Кастрычнік уяўляў сабой новы паварот жыцця народаў былой Расійскай імперыі, і гэтаму павароту адпавядаў той адмысловы ўклад духоўнага быцця, які цяжка назваць культурай у агульначалавечым сэнсе, але сурагатам якой ён, несумненна, з'яўляўся. Справа тут, на мой погляд, заключаецца ў тым, што пры аналізе сітуацыі трэба ўважліва разглядаць сутнасць марксісцкага, а таксама ленінска-сталінскага падыходу да культуры ў двух напрамках: тэарэтычным і практычна-прагматычным і, па магчымасці, не блытаць іх. Што вельмі нялёгка, калі яшчэ мець на ўвазе тое, што марксізм вельмі рана пазбавіўся такіх «цяжкасцей», як маральныя нормы, а таму разлічваць на аб'ектыўны аналіз з яго дапамогай — марная справа.

Прыкладам, можна сцвярджаць, што асабіста Карл Маркс у першы перыяд сваёй творчай дзейнасці і сапраўды дбаў аб духоўным развіцці чалавецтва і аб гуманістычным змесце сацыялістычнай рэвалюцыі. У ягоных «ранніх творах», сярод якіх асабліва вылучаецца «Эканамічна-філасофскі рукапіс 1844 года», размова ідзе аб «родавых» рысах чалавека, ягоных сутнасных сілах, аб шляхах адчужэння чалавечай асобы, аб сцвярджэнні творчага пачатку ў дзейнасці чалавека. Сапраўдная сутнасць чалавека як унікальнай істоты вызначаецца ў яго дзейнасці, якая згодна ягонай родавай парадыгме характарызуецца тым, што «чалавек можа выраблядь па мерках любога віду і ўсюды ён умее прыкладаць да прадмета адпаведную мерку: у сілу гэтага чалавек фарміруе матэрыю таксама і па законах прыгажосці».

Тут увесь ранні Маркс, старанны вучань Гегеля, сапраўдны філосаф, які імкнецца вызначыць сутнасць чалавека і чалавецтва, а таксама культуры. Ён добра ўяўляе сабе, што ёсць духоўнае жыццё чалавецтва і духоўны стан чалавека. На жаль, у далейшым пошукі класікаў марксізму пайшлі ў другім — не ў філасофскім, а ў эканамічна-сацыялагічным — напрамку.

У дактрыне К. Маркса і Ф. Энгельса жыццё грамадства ў рэшце рэшт вызначалася суадносінамі эканамічнага базісу і надбудовы, якая трактавалася як сукупнасць «форм грамадскай свядомасці». Я свядома адхіляюся тут ад праблем класавай барацьбы, якая абвяшчаецца марксізмам галоўным «маторам» гісторыі, ад праблем прыбавачнай вартасці, ад характарыстыкі этапаў сацыялістычнай рэвалюцыі і, нават, ад сутнасці дыктатуры пралетарыяту. Усе гэтыя праблемы — і ёсць, на мой погляд, гістарычная віна марксізму перад чалавецтвам, якая прывяла да мора крыві менавіта ў нашым, XX стагоддзі. Але сёння я хачу паразважаць не аб віне, а аб бядзе марксізму-ленінізму. Яна, на мой погляд, караніцца якраз у прымітыўным разуменні феномена чалавека і феномена культуры. Пра чалавека — асобная падрабязная размова. Пазначу толькі, што ў марксісцкай трактоўцы чалавек аказаўся «сацыяльнай жывёлінай» і ўлічваўся як сацыяльная адзінка ў «грамадскай вытворчасці мас» (як гэта ўсё жудасна далёка ад гуманістычных поглядаў ранняга Марксаl).


Фота У. ПАНАДЫ.

Сёння ж у нас у цэнтры ўвагі — культура. Прыгледзімся да марксісцкай трактоўкі надбудовы (яна ж «грамадская свядомасць», яна ж — «духоўнае жыццё» грамадства і да т.п.). Як нас вучылі класікі марксізму, надбудова складаецца з асобных форм грамадскай свядомасці, галоўнымі з якіх з'яўляюцца — па меры аддалення ад базісу — палітыка, права, навука (у тым ліку філасофія, як асобная форма свядомасці), мараль, мастацтва, рэлігія. Прычым тыя формы, што бліжэй да базісу, «больш» залежаць ад яго; «далейшыя» залежаць таксама, але не так моцна... Палітыка — найбольш канцэнтраванае выражэнне ідэалогіі (у вузкім значэнні паняцця), але і іншыя структуры ёсць па сутнасці ідэалагічныя формы. Вось тут і адчыняецца гэтая таямніца грэхападзення марксізму ў адносінах да культуры: яна **атаясамляецца** з ідэалогіяй, і ідэалагічнае напаўненне асобных сфер яе (што і сапраўды мае месца) абвяшчаецца галоўным, вызначальным яе сэнсам.

З такога пункту гледжання некаторыя сферы культуры — напрыклад, рэлігія — павінны наогул знішчацца. Вядома ж, — «опіум для народа», канцэнтрат цемрашальства. Іншыя — ператварацца. Напрыклад, мараль. Сапраўднай можа лічыцца толькі мараль «будаўніка камунізму». Іншыя сферы культуры павінны моцна карэкціравацца, каб у іх панаваў «сапраўдны», «адзіна правільны» ідэалагічны пачатак. Менавіта такі падыход знішчаў ушчэнт «сацыялістычную» грамадскую навуку і моцна дэфармаваў навуку прыродазнаўчую (аўтар у свае студэнцкія гады дастаткова наслухаўся і начытаўся аб генетыцы і кібернетыцы — «прадажных дзеўках імперыялізму»).

Пра мастацтва размова асобная. Але праз дзесяць стагоддзяў наўрад ці хто зможа зразумець, як здарылася, што цудоўныя творы нават класікаў — Ахматавай, Цвятаевай, Ясеніна, Пастэрнака, Булгакава, Дастаеўскага і Купалы — забараняліся, чаму лёс творцаў аказаўся трагічным...

Але ўсё гэта мела свае заканамернасці. Мы закранулі тэарэтычныя падставы марксізму. Трэба яшчэ раз падкрэсліць, што Маркс пачынаў ад гуманістычнай планкі, што яго першапачатковыя жаданні супадалі з жаданнямі многіх цудоўных людзей, тэарэтыкаў, якіх мы звыклі памячаць як «сацыялістаў-утапістаў» і якія ў сваіх творах выяўлялі спрадвечныя мары людзей аб справядлівасці, годным чалавечым жыцці, шчасці. З пункту гледжання «сталага марксізму» гэтыя небаракі не ведалі законаў быцця грамадства. Памятаеце ленінскае: «Вучэнне Маркса ўсясільнае, таму што яно вернае»? Але заканамернасці лепш за ўсё праглядаюцца там, дзе ёсць адзіны стрыжань. Ён, у рэшце рэшт, і быў выпрацаваны марксізмам: эканамічны базіс і адпавядаючая яму ідэалогія. І хаця сам Маркс, а таксама і Энгельс, былі адукаванымі навукоўцамі высокага ўзроўню і спрошчвання духоўнай сферы ў асобных сваіх творах змаглі пазбегнуць (дарэчы, як і Пляханаў, жудасныя сацыялагічныя схемы якога часам і спалучаюцца з тонкімі поглядамі на развіццё літаратуры і з мастацкімі ацэнкамі), — сістэма павінна была ўзяць сваё і яна ўзяла сваё.

Тут яшчэ важная праблема глебы, на якой ажыццяўляюцца практычна тэарэтычныя пастулаты. Кастрычнік, як вядома, ажыццявіўся на расійскай зямлі. Гэтая зямля 500 гадоў не ведала паняцця «свабода». І ўся моц рускага нацыянальнага характару, уся празмерная шырыня яго выбухнула восенню 1917 года, і бальшавікі не ўпусцілі свой шанц. Гэтаму садзейнічаў й той факт, што на чале іх стаяў У. І. Ленін — нядрэнны стратэг і выключны тактык, які з дакладнасцю лічыльніка Гейгера здолеў вызначыць час, калі трэба выступіць, каб авалодаць уладай, і як яе абараніць і захаваць. Вялікім філосафам назваць яго я, канешне, не здолею, але што гэта быў магутны розум, накіраваны на рэвалюцыйную перабудову жыцця ўсіх народаў Расійскай імперыі (пажадана — і ўсяго свету) — гэта відавочна. Да таго ж марксісцкая парадыгма на знішчэнне старога свету «да асновы» і на дзеянне дзеля дзеяння (не даючы сабе магчымасці і жадання прадумаць усе вынікі гэтых дзеянняў), памножаная на імпульсіўны характар правадыра бальшавізму, была тым галоўным унутраным суб'ектыўным фактарам (аб аб'ектыўных трэба разважаць доўга і падрабязна), якая і спарадзіла Вялікі Кастрычнік як з'яву і феномен гісторыі.

Але гэтая з'ява цікавіць нас не сама па сабе, а ў адносінах да культуры. Адзначаная вышэй тэндэнцыя спрошчвання культуры, звядзенне яе да ідэалогіі асабліва яскрава праявілася ў дактрыне бальшавізму. У. І. Ленін у выпрацаванай ім яшчэ да рэвалюцыі тэорыі «дзвюх культур», сцвярджаў, што ёсць «культура буржуазная», а ёсць «пралетарская». Ён адмаўляе, закрэслівае паняцце «нацыянальная культура» і высоўвае на першы план ідэалагічны змест у форме культуры. Чаму ж дзівіцца, што калі

(Працяг на стар. 12).

**ВІНШУЕМ!**

# «Каб любіць жыццё, трэба любіць дзяцей...»

## 18 лістапада Паўлу КАВАЛЁВУ —80 гадоў



**Свой юбілей Павел Нічыпаравіч сустракае переможцам. Мужна перамог трэці інсульт. Праўда, хадзіць не можа. Кожны крок — на ўліку. Яшчэ больш, як раней, не дачувае. Часта баліць галава.**

**Часам безнадзейна махне рукой: «Ай, Уладзімір, усё закончылася...» А пасля, гляджу, выцягвае з-пад падушкі паперкі:**

**— Гэта во, для чытачоў «Вясёлкі» накрэмзаў...**

**Маладая ўсмешка ўскочыць на стомлены твар, вочы заіскрацца:**

**— Раскажы, братка, што новага ў саюзе нашым...**

**Яму цікава любая драбяза. Хоча ведаць пра ўсё-ўсё. Жыве чалавек!**

**У гэтыя даверлівыя імгненні нашых сустрэч і мне цікава распытаць «старога члена прафсаюза». Вось так нечакана і склаўся наш шчыры дыялог.**

**— Павел Нічыпаравіч, што бачыцца вам з вышыні гадоў?**

— Лічу сябе шчаслівым!.. Ніколі не думаў, што зязюля столькі накукуе. Адна мая цётка казала: смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны... Некалькі разоў развітваўся з жыццём...

**— Прыгадайце, як гэта было?**

— У вайну... Адступалі.. Прыпыніліся ў лясах паміж Гомелем і Чарнігавам. Я быў у аператыўнай урадавай групе, выпускалі лістоўкі, газету «Звязда»... І раптам самалёт нямецкі. Як жа пачаў бамбіць! Ляжу за дубком, а бомба ўзарвался насупраць. З таго часу — глухі. Яшчэ трыццаці не было, а ўжо мог развітацца з жыццём...

**— Ці верыце, што ў кожнага свой лёс, закадзіраваны ў генах?**

—Так, кожнаму — сваё... Некалі я спытаў у мамы: «Дзед Харытон жыве, а пляменнік твой Лявон — памёр. Чаму так, стары жыве, а малады памірае?» Мама растлумачыла: «Усё ад Бога, сынок». Я дзівіўся: як гэта? «Не дазнаешся, сынок, бо ён на небе. Як нараджаецца чалавек, Бог ставіць яму свечку. Колькі гарыць свечка, столькі жыве чалавек...» І я задумаў неверагоднае: паглядзець, як гарыць мая свечка. Залез на хату — не відаць. Залез на слуп — не відаць. Пабег у лес, адолеў самае высокае дрэва — не відаць. Супакоіла мама: «І не ўбачыш, сынок, шчасце ў тым, што чалавек не ведае, якую свечку паставіў яму Бог...» Я глыбока веру — кожнаму сваё. Цяпер во ахайваюць партыю, а я служыў ёй больш за пяцьдзесят гадоў. І ў гэты складаны час скажу: усім, што дасягнуў і маю, абавязаны партыі. Нідзе не схібіў... Сваю апошнюю кніжку назваў «Судзі сябе сам». Дык вось, перад сваім сумленнем я — непадсудны...

**— А доказ?**

— Выклікае мяне некалі следчы Фёдараў, патрабуе, каб нагаварыў на Кузьму Чорнага, што ён, маўляў, нацыяналіст, вораг народа. Адмовіўся! Дык што ж ты думаеш? Паставіў мяне да сцяны, прыцэліўся з пістолі... Я і гэта вытрымаў... А ў вайну давялося жыць разам з Чорным, Мікалаем Карлавічам Рамаsucceedскім, у гасцініцы «Якар», у пакойчыку нумар чатыры. Ён расказаў, як выпускалі яго, то далі пачытаць мае паказанні. Абдымаў мяне і гаварыў: «Паўлючок мой...» Цяпер гэта — як узнагарода...

**— Хто найбольш ацаніў вас, як літаратара!**

— Міхась Лынькоў!.. Самы справядлівы і чалавек, і пісьменнік, і кіраўнік нашага саюза. А яшчэ — Кандрат Крапіва. Удзячны Янку Маўру. Яны, старэйшыны, чыталі напісанае намі і па-бацькоўску ўшчувалі ці хвалілі. Цяпер маладыя, на жаль, такой увагі не маюць...

**— Вы дзесяць год працавалі адказным сакратаром Саюза пісьменнікаў. Можа, ёсць што падказаць сённяшнім кіраўнікам?**

— Ай, гаварыў і не раз: трэба быць паважлівымі да кожнага пісьменніка. Кожны з нас нешта зрабіў у літаратуры, адзін — больш, другі — менш. Усіх трэба цаніць... І, скажу табе, найперш трэба навучыцца паважаць пісьменніка... От, помню, разбіралі на прэзідыуме аднаго паэта, ушчувалі яго, што часта выпівае, не клапоціцца пра здароўе. Дык гэта ж рабілі па-добраму... Выступае нехта і кажа: «Толя, думаеш, Лынькоў не п'е? Выпівае. Думаеш, Броўка не п'е? П'е...» Так пераплічыў усіх, а тады заключае: «Але ж яны п'юць ды закусваюць пры гэтым. А ты?..» Міхась Ціханавіч Лынькоў падхоплівае размову: «Хлопцы, можа, так і пастановім: пі, але закусвай!..»

Павел Нічыпаравіч смяецца залівіста, па-маладому, аж праслязіўся. Зірнуў у акно, як бы не парк убачыў, мінуўшчыну свайго жыцця, выцягнуў з памяці, як саломінку са стога, жывы ўспамін:

— Пятрусь Броўка лоўка падтрымліваў традыцыі Міхася Лынькова. Тактоўна, паважліва ставіўся да кожнага пісьменніка, цаніў у ім асобу... Цяпер мы зынакшыліся. Шкада... І саюз у цэлым, і пісьменнікі — у пасіве, як бы разгубіліся. Атрымліваецца, што Васілю Быкаву, Алесю Адамовічу, Нілу Гілевічу ды яшчэ некалькім з нашага брата па-сапраўднаму баліць за народ, яго мову, за вынікі Чарнобыля, за лёс нашых дзяцей...

**— На чым стаіць сёння наша зямля? Якая крынічка натхняе?**

— Вой, якое складанае пытанне... Паўтаруся: у кожнага — сваё, і ў чалавека, і ў дзяржавы, і ў нацыі. Адно ва ўсіх — як лепш жыць! У пошуках гэтага — увесь сэнс... У чалавека два полюсы: дабро і зло. Свет трымаецца на дабрыні, інакш мы б даўным даўно знішчыліся... Але шкада, што ў чалавеку нешта засталося ад звера. Эвалюцыя да канца не адбылася... Гэта б нам, пісьменнікам, варта асэнсаваць...

**— Як ставіцеся да высновы: свет трымаецца на каханні?**

— Нехта з вялікіх сказаў: каханне — ляціць! Яно не мае застойнага перыяду. Дзіўна, што скажу: каханне — не галоўнае ў сям'і. Мацней за яго — сумленне і павага. Павер, табе гаворыць чалавек, які пражыў з сваёй Зояй Антонаўнай пяцьдзесят сем гадоў, у якога — пяць праўнукаў...

...Павел Нічыпаравіч задаволена смяецца, паказвае сваю кніжку «Намеснік бабулі», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Юнацтва». Падпісвае яе мне і даводзіць пры гэтым, што вельмі ўдзячны сваім дзецям, унукам і праўнукам, якія натхнілі яго не адну кніжку. Падахвоціўся расказаць жарт:

— Сустракаліся некалі з Астапам Вішняй. Я прызнаўся яму, што маю ўжо трое дзяцей, шасцёра ўнукаў. Ён падхваліў мяне: «Якую ты, Паўлюк, вялікую работу робіш!.. Я таксама рабіў, рабіў дзяцей — надакучыла. Пачаў рабіць унукаў — цэ таксама цяжкая праца!..» Некаторыя палохаюцца дзяцей. Шкадую такіх людзей. Веру ў адно: каб любіць жыццё — трэба любіць дзяцей!..

Мы яшчэ багата пра што гаварылі з Паўлам Нічыпаравічам. А калі развіталіся, ён даверыў мне тры аркушы паперы. Спісаны яны наўскасяк. Відаць, цяжка даваўся яму кожны радок. Так атрымалася новае апавяданне юбіляра «Ліванец». Яго, па просьбе аўтара, передаю чытачам «ЛіМа». І няхай яно, немудрагелістае апавяданне, стане нам, маладзейшым, добрым урокам з народнага: як бы цяжка ні было, а ніву засявай! І добрым насеннем!

**Уладзімір ЛІПСКІ.**

***Павел КАВАЛЁЎ***

# ЛІВАНЕЦ

## Апавяданне дзеда Івана

У нашай невялікай прыгараднай вёсцы Чарнушкі ў мяне, Івана Дразда, самая вялікая сям'я — ад прадзедаў да праўнукаў. Сусед Абрам Кац жартуе: «У цябе, Іван Данілавіч, не сям'я, а каманда свету». Гэта ён намякае, што ў мяне шматнацыянальная сям'я. І ён правы. Вось паслухайце.

Сам я беларус, з Магілёўшчыны. Жонка Праскоўя Ягораўна — руская, з суседняй Браншчыны. Першая нявестка Рахіль, гэта ж дачка Абрама Каца. Разам з маім сынам Сямёнам вучыліся ў адной школе ад першага да дзесятага класа. Разам і ў сям'ю прыйшлі Рахіль надзейная памочніца Праскоўі Ягораўны. Навучылася піragі выпякаць. Яны вельмі падабаюцца малодшаму зяцю Іонасу Скачунасу, які выхапіў у мяне малодшую дачку і ў Літву павёз. Часта да нас, старых, прыязджаюць, сырам літоўскім частуюць.

Старэйшая дачка пазнаёмілася з вайскоўцам, украінцам Васілём Макіўчуком і паехала да родзічаў на Украіну. Жывуць недзе ў раёне пад Чарнігавам. Таксама часта нас наведваюць. Разам з сынком, першым унукам маім. Хлопчык, як прыедуць, ад мяне не адыходзіць. Падабаецца яму мая сівая барада. Глядзіць: «Мій дзіду, мій дзіду». Кранае мяне гэта. Малы, а мовіць па-ўкраінску.

Сёлета ў маіх родзічаў, а значыць і ў мяне адбылася надзвычайная падзея. Раскажу больш падрабязна.

Прыходзіць пляменнік Харытон і кажа:

— Ну, дзядзька і цётка, запрашаю на вяселле дачкі...

— Ганкі?! — не ўтрымалася Праскоўя.

— Так... Ганка выходзіць замуж.

— За каго, хутчэй скажы? — і я запытаўся.

Харытон не спяшаўся з адказам, але ўхмыльнуўся, і мовіў:

— За ліванца!

— Што? — не зразумелі мы абое.

— Так, — кажа, — за ліванскага грамадзяніна. Студэнта іхняга медінстытута.

Раней жа было, мы, савецкія, дапамагалі амаль усім краінам рыхтаваць спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. У нашым абласным мединстытуце, дзе навучалася Ганка, вучылася і група ліванскіх хлопцаў. Шэсць год разам авалодвалі прафесіяй урача. Вось і пазнаёміліся Ганка і ліванец Халіль, а ўрэшце, перад атрыманнем дыпломаў урачоў-кардыёлагаў, рашылі пажаніцца. Вяселле ладзіць студэнцкі савет. Ну, а я, кажа Харытон, не магу быць убаку. Вось і прашу на сямейнае свята.

Як падышоў дзень вяселля, пытаю ў жонкі.

— Ну што, Праскоўя, паедзем? Гэта ж унучкіна свята.

— Ты, Іван, едзь, а я не магу, зусім расхварэлася. А ты і за мяне чарку возьмеш, павіншуеш...

Заехаў Харытон за намі і я, як раіла жонка, паехаў з ім у наш абласны горад, прама ў медыцынскі інстытут.

Каля самых уваходных дзвярэй нас сустрэлі студэнты. Памаглі ўзяць з машыны Харытонавы запасы і вяндлінкі, і сала, і салёных агуркоў. Ён жа, Харытон, гаспадарлівы чалавек і разумее, што да студэнтаў трэба везці.

Я быў здаволены стрэчай. У сталоўцы нас прывіталі. А праз якую паўгадзіну і маладыя прыйшлі. Адразу з Дома шлюбу, са сведкамі...

Іх сустрэлі воплескамі, а як толькі селі за стол, пачулася: «Горка, горка!»

І пачалося ўсё як у нас бывае. Тамада вёў бяседу вясельную. І раптам чую сваё імя, і тое, што я, Іван Данілавіч Дрозд, самы-самы госць, і просяць мяне сказаць слова.

Устаў я з-за стала і пачаў:

— Наша, беларускае вам, маладым, пажаданне.

— Просім! Просім! — закрычалі студэнты, і гэта мяне падбадзёрыла.

— Каб у вас, Ганка і Халіль, сваё дабро вялося. Каб у вас сваё гняздо звілося... З птушанятками...

Зноў воплескі, воклічы:

— Брава! Першая прэмія за тост!..

А я працягваў:

— Каб вам, Ганка і Халіль, разам і шчасліва жылося аж да сівога валосся...

Усе ўзняліся і доўга шумелі, а я зноў успомніў сваю жонку. Гэта ж яна падказала такое слова.

Звычайным парадкам ішло вяселле. Узняўся з-за стала брат Халіля Хасан, які прыляцеў з Лівана на вяселле. Мяне ўразіла, што ён сказаў:

— Тут Іван Данілавіч жадаў, каб у маладых сваё дабро было. Так і будзе. Я ўжо падрыхтаваў памяшканне, і Халіль з Ганкай будуць мець сваю клініку ў Бейруце і будуць лячыць ліванцаў хворых на сэрца. Гэтак будзем сардэчна мацаваць сувязь нашых народаў...

Пляменнік Харытон тым момантам падсеў да Халіля і наліў яму і сабе па чарцы. Сказаў:

— Давай, зяцёк, вып'ем за наша...

Халіль, аднак, не даслухаў і адсунуў чарку з гарэлкай, узяў чарку з «нарзанам», памкнуўся чокнуцца.

— Не, брат, у нас з вадой не чокаюцца...

— А ў нас, урачоў, гарэлку не п'юць...

Харытон быў уражаны, ціхенька адышоў.

Закончылася вяселле позна. І я пайшоў з Харытонам дамоў. А на вуснах у мяне, як і сёння ва ўсіх маіх родзічаў не сыходзіць слова «ліванец».

Значыць, у камуне маёй прыбавілася...

Нарэшце наша гуманістыка пачынае вяртацца да адэкватнага разумення культуры з яе асноватворнымі культамі, уключна з культам рэлігіі, веравызнання чалавека. Пераадольваецца і спрошчаны, абцяжараны ідэалагемна-атэізаванымі дактрынамі пагляд на гісторыка-культурны, літаратурны працэс. Спрашчэнняў жа, сацыялагізаваных ператрымак у даследаваннях творчых партрэтаў беларускіх пісьменнікаў, усяе літаратурнае спадчыны напрувасцілася нямала. Два толькі прыклады.

«Новая беларуская літаратура развівалася насуперак дагматам хрысціянства і яе ў гэтым сэнсе можна назваць нават атэістычнай. Беларуская літаратура развівалася як літаратура грамадская, рэвалюцыйная, а рэвалюцыі ніколі не па дарозе з рэлігіяй». Або: «Родная мова, а не рэлігійная вера аказалася ў беларуса паказчыкам нацыянальнай тоеснасці».

Адносна ж нашае нацыянальнае тоеснасці знаны фальклярыст і даследчык народнае творчасці Еўдакім Раманаў яшчэ на зыходзе XIX стагоддзя выказаў цікавае меркаванне, здатнае, як здаецца, і цяпер служыць пэўным метадалагічным ключом у асэнсаванні духоўнае творчасці беларусаў: «Народ наш з бязмежнай любоўю адносіцца да Бога і святых. Розніца паміж намі (мабыць, інтэлектуаламі. — **А. К.**) і народам заключана толькі ў тым, што мы імкнёмся ўзняцца ў нашым разуменні боскасці, народ жа натуральна імкнецца наблізіць да сябе ўсё ўзвышанае, святое, ідэальнае, увесці, так бы мовячы, у свой паўсядзённы побыт» (ЦДГА Беларусі). Што ж, аўтар «Беларускіх зборнікаў» меў дастаткова грунтоўных падстаў для такое высновы. Калі б згадаць толькі шматлікія публікацыі духоўных твораў беларусаў у выданнях як самога Раманава, так і ягоных сучаснікаў П. Бяссонава, П. Шэйна, У. Дабравольскага, М. Федароўскага, крыху пазней — А. Сержпутоўскага, Ч. Пяткевіча. Шкада, што ў сучасным шматтомным выданні «Беларуская народная творчасць» дасюль няма спецыяльнага выпуска, цалкам прысвечанага боганатхнёнаму вусна-паэтычнаму мастацтву народа, па-свойму

У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла накладам усяго 2 тысячы пасобнікаў факсімільнае перавыданне першага з трох пабачыўшых свет зборнікаў вершаў Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам» (Вільня, 1927 г.).

Прыйшла да беларускага чытача дагэтуль вядомая толькі аматарам паэтка, якую безумоўна можна назваць з'явай у айчыннай прыгожай пісьменнасці. Пра Арсенневу абавязкова з'явяцца працы літаратуразнаўцаў, дзе будуць выяўлены адметнасці яе таленту. Але бясспрэчна тое, што яе вершы прасякнуты сапраўднай беларускасцю. Нездарма яе верш «Магутны Божа» прайшоў у апошні тур конкурсу на тэкст гімна Беларусі.

Адкуль у паэткі беларускае светаадчуванне? Можна ж лічыць, што да 17 гадоў яна амаль не сутыкалася з беларускай літаратурай, бо нарадзілася ў сям'і расійскага службоўцы, дзе панавала руская мова; пражыла з усяго свайго свядомага жыцця толькі 4 гады ў Вільні і каля 5 гадоў на Беларусі.

Верагодна, схільнасці да паэтычнага асэнсавання свету ў паэткі былі закладзены генетычна — яна далёкая сваячка Міхаіла Лермантава. Але чаму гэтыя задаткі выявіліся праз беларускую мову?

Тут асцярожна дазволю сабе першае дапушчэнне. Вядома, што пры сутыкненні непадобных з'яў, на іх кантрасце ствараецца псіхалагічнае напружанне, якое прыводзіць да жыццёва важных знаходак, да інсайду, да ўсведамлення сваёй асабістай адметнасці, да абвостранага адчування свайго

# «МАЦНЕЙШЫ АД ВЕРЫ...»

## Перачытваючы Францішка Багушэвіча

вызначальнаму для ўсяе ягонае культурнае спадчыны. (Затое ў названай серыі хапіла месца для так званых атэістычных твораў антыпапоўскага, антыксяндзоўскага накірунку, якія можна вытлумачыць не гэтулькі «антырэлігійнасцю» беларуса, колькі казённым, адарваным ад народнае глебы і каранёў, ад беларушчыны характарам царкоўных інстытутаў на Беларусі. Невыпадкова, што асобы духоўнага сану станавіліся нярэдка аб'ектам вострага сялянскага і не толькі сялянскага гумару).

У святле папярэдніх заўваг і пытанне аб рэлігійнасці Францішка Багушэвіча правамерна разглядаць найперш як пытанне духоўнага партрэта н а р о д а, мастацкім увасабленнем якога і стаў аўтар «Дудкі беларускай» разам з многімі сваімі папярэднікамі, сучаснікамі і наступнікамі па пяры. Не месца тут, пры абмежаваных памерах газетнага допісу, падрабязна разглядаць творы Багушэвіча. Гэта ў стане зрабіць кожны зацікаўлены чытач, наладзіўшыся на адпаведнае нашым развагам прачытанне Багушэвічавых вершаў. Менавіта пад вуглом адлюстравання ў іх рэлігійнасці, нацыянальна-рэлігійнае тоеснасці беларуса.

Мне ж у сувязі з пазначанай праблемай хацелася б засярodзіць увагу толькі на адным аспекце агульнейшага парадку: на «канфесійным» падзеле пачынальнікаў новае беларускае літаратуры. У навуковых і папулярных публікацыях страчаецца, апошнім часам нават шырыцца меркаванне аб выключнай ролі ў літаратурным працэсе XIX сталецця пісьменнікаў каталіцкае арыентацыі, з так званага польска-культурнага асяроддзя, і адсутнасці ў ім беларускіх творцаў праваслаўнага веравызнання.

Напрыклад, заўвага Юры Туронка: у хрэстаматыях, кніжках беларускіх XIX ст. «я не знаходжу там праваслаўных аўтараў. Усе, пачынаючы ад Рыпінскага і канчаючы Багушэвічам, былі каталікамі. Гэта дыскусійная справа, наколькі яны імкнуліся адрадзіць беларускую нацыю... Але з праваслаўнага боку мы гэтага не бачым увогуле. Зерне было пасеяна якраз дзеячамі каталіцка-шляхецкага накірунку» («Чырвоная змена» за 3—9 жніўня г. г.). Нешта падобнае, праўда, менш катэгарычнае і ў іншым кантэксце выказваў у сваіх аўтабіяграфічных нататках і другі наш вядомы гісторык: «Наколькі многа высунула навуковых дзеячаў вясковае уніяцкае духавенства, настолькі бедным сталася праваслаўнае, хаця ўмовы для іх былі нязмерна больш спрыяльныя» (М. Улашчык. «Хроніка». Мінск, 1991).

Пэўне, я не маю на мэце бараніць праваслаўную царкву як афіцыйную структуру, чыя кансерватыўная, калі не сказаць рэакцыйная роля ў гісторыі беларускага адраджэння XIX ст. дый і пазней агульнавядомая. Урэшце і каталіцкае духавенства, вышэйшае асабліва, выглядае з гэтага ж гледзішча не нашмат прываблівей. Касцёл як структура на Беларусі быў і па інерцыі шмат у чым застаецца — факт таксама шырока вядомы — выразнікам і праваднікам палітычных і культурных інтарэсаў Польшчы. І Коласава «З двух бакоў айцы дубінай заганялі нас у рай» (паэма «Сымон-музыка») у дадзеным выпадку вельмі дарэчы. Ведаем добра, што за «рай» прапагандавалі беларусу служкі ў сутанах, у лепшым выпадку абыякавыя, а найчасцей варожыя беларускаму слову, беларушчыне наогул. Але лічу патрэбным правесці мяжу паміж царкоўнасцю і рэлігійнасцю, паміж царквой (касцёлам) як грамадскім інстытутам і рэлігійнасцю, індывідуальным веравызнаннем.

І тады, слушна націскаючы на імёны Баршчэўскага, Чачота, Рыпінскага, Дуніна-Марцінкевіча, вядома, і Багушэвіча разам з іншымі пісьменнікамі-каталікамі, не забывайма і пра іхніх «праваслаўных» калег, чый творчы ўклад у адраджэнне нашага прыгожага пісьменства лічэбна можа й не гэтулькі рэпрэзентатыўны, але ў якасна-мастацкіх адносінах не менш вымоўны, важкі. Прозвішчы П. Шпілеўскага, І. Цытовіча, І. Насовіча, Е. Раманава (асэнсаванне ўласна літаратурнае дзейнасці двух апошніх яшчэ перад намі), а перадусім В. Равінскага, К. Вераніцына — аўтараў класічных паэм, доўгі час успрыманых за ананімныя, «Энеіды навыварат» і «Тараса на Парнасе», гавораць самі за сябе.

Зрэшты, сутнасць праблемы стоена, мабыць, не ў фармальна-вонкавым, знову ж вельмі ўмоўным падзеле беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў паводле іхняе канфесійнае прыналежнасці, хаця зразумела, што характар рэлігійнасці таго ці іншага творцы ў сукупнасці з іншымі ягонымі індывідуальнымі рысамі паклаў свой адбітак на ідэйна-мастацкі пафас, вобразна-выяўленчую манеру, спосаб тыпізацыі герояў, наогул, на ўвесь літаратурны стыль мастака. У гэтым сэнсе Аліндарка Багушэвіча («Кепска будзе») і Восіп Раманава («Міласцівы Восіп») відочна розняцца між сабою знешнім «каларытам» свае рэлігійнасці, хоць абодва ва ўспрыманні чытача не гэтулькі апаніруюць, колькі дапаўняюць адзін другога, сыходзячыся ва ўласным маральна-этычным, наскрозь хрыста-чалавекалюбным нутраным пабажэнстве. Чаго не скажаш пра ідэйна-рэлігійную афарбоўку перакананняў абодвух аўтараў спомненых твораў — верацярпімага каталіка Багушэвіча і непрыкаянага, часамі, ваяўнічага нават праваслаўнага Раманава.

Таму куды істотней, на нашу думку, было б заглыбленне над унутранай праявай рэлігійнасці ў творчым працэсе: наколькі тая спрыяе ўмацаванню, узбагачэнню аднаго з асноватворных культаў Культуры, якім з'яўляецца рэлігія, наколькі абуджае, інспіруе ў свядомасці чытача хрысталюбныя пачуцці, наколькі паядноўвае (ці не самае галоўнае ў беларускім культуратворчым досведзе) веравызнаўчыя й нацыянальныя якасці чалавека.

З пазначанага вышэй пункту гледжання творчы набытак Багушэвіча бачыцца мне даволі прыкметным і нават вызначальным у асэнсаванні духоўнае тоеснасці беларуса, у пераадоленні дасюль не пазбытай спракавечнай раз'яднанасці рэлігіі і культуры, рэлігійнасці і нацыянальнасці ў беларускім лёсе. Дастаткова запыніцца на славутым вершы «Хрэсьбіны Мацюка», хоць уся творчая спадчына паэта ў гэтых адносінах вельмі паказальная. Але ў «Хрэсьбінах» згаданая праблема «раз'яднанасці» вырашана з найбольшым драматызмам і вобразна-выяўленчай перакананасцю на шырокім гісторыка-бытавым фоне беларускай рэчаіснасці. Вырашана як праблема духоўна-нацыянальнага гарту, неўміручасці беларуса. Так, чалавека рахманага, лагоднага і адначасна — няўступлівага, упартага ў сваёй беларускасці, няхай сабе й разуметай, покі што, на рэгіянальна-побытавым, «тутэйшым» узроўні.

**І б'юць — не баліць, хоць**
**за сэрца бярэ:**
**За што ж ён мне гэта**
**ды скуру дзярэ?!**
**Як крыкну гэта:**
**«Эй, біце ж мацней,**
**Мацнейшы ад веры вашай**
**Мацей!»**

Пэўне, перахрышчванне беларуса-Мацея з «тутэйшага ды ў палякі» (вядома, гісторыя пакінула нам не толькі штучна-«польскі» рыдван на беларускай душы) на XIX стагоддзі не спынілася, хаця й працягвалася (і працягваецца) больш гуманнымі метадамі. Мне ж і сягоння чуцён у вушшу посвіст княскага бізуна за кожным сіпеннем супроць слова беларускага ў божым Храме, супроць Беларускага Шляху да вячыстае божае ісціны.

Тым не менш, драматычны ўрок на выжывальнасць беларуса, лапідарна выкладзены паэтам, застаўся й надоўга застанецца ўрокам і зарокам нашае беларускае тоеснасці, беларускае годнасці. Нават і тады, калі наш Мацей у касцёле моліцца па-польску, у царкве — па-руску, у спрэчцы мацюкаецца па-расейску і толькі дома размаўляе па-свойму, «па-простаму», інакш — па-беларуску. Галоўнае, ён застаецца беларусам. І застанецца такім. Асабліва, калі стане не толькі чытаць Багушэвіча (Купалу, Багдановіча, Коласа, Караткевіча...), але жыць і дзейнічаць паводле нацыянальнага кодэкса сваіх прарокаў. Таму і слушную заўвагу кс. Адама Станкевіча аб тым, што Багушэвіч «рысуе прыгожы этычны тып Беларуса-каталіка» (адносна верша «Свая зямля») можна з дастатковымі на тое падставамі пашырыць да паняцця «тып беларуса-хрысціяніна».

На заканчэнне яшчэ адно меркаванне. Канешне, канкрэтныя дэталі ў творах Багушэвіча выдаюць і ў самім аўтары і ў паводзінах ягоных герояў — каталікоў. Але каталіцкасць іхняя ніколькі не памяншае, наадварот, адцяняе й ўзмацняе агульнахрысціянскі, усебеларускі і ўсесяленскі пафас творчасці паэта. Варта запыніцца над любым вершам Мацея Бурачка, не кажучы пра слынную «Прадмову». Вельмі плённым бачыцца ў гісторыка-літаратуразнаўчых, як і рэлігійна-філасофскіх адносінах спасціжэнне праблемы праўды ў Багушэвіча. Божае Праўды праз божае Слова:

**Каб жа тое слова ды**
**людцоў з'яднала,**
**Каб на тое слова**
**ворагаў не стала;**
**Каб людцы прызналі**
**братоў ды братамі —**
**Дзяліліся б доляй і хлеба**
**шматамі.**
**А без тога слова я —**
**нямы калека!**
(«Праўда»).

Ад душэўнага калецтва засцерагае і наступная паэтычная прыпавесць аўтара «Кепска будзе»:

**Бог паможа проціў сілы,**
**Праўда выйдзе як з магілы.**

Ці не яе, Найвышэйшую Праўду, меў на ўвазе беларускі паэт, — якую яшчэ на зары хрысціянства выказаў апостал Павел: «Пазнайце Праўду і Праўда зробіць вас свабоднымі»?

**Аляксей КАЎКА.**

г. Масква.

# «ІСКРАЦЦА Й ПЯЮЦЬ СЛОВЫ І ГУКІ»

## Таямніца беларускасці Наталлі АРСЕННЕВАЙ

«я» і рэчаіснасці. Уздзеянне гэтага феномена зведалі беларуска-польскія і -расейскія, польска- і расійска-беларускія творцы, а сярод апошніх — Наталля Арсеннева.

Але ўсяго гэтага, вядома, мала. На мой погляд, лёсавызначальным з'явілася для будучай паэткі тое, што ў яе характары былі псіхалагічныя рысы, якім пасавала беларуская мова з асаблівым гукаскладам і беларускае светаўспрыманне, якое не было адарвана ад фальклорнай свядомасці. У крытычна-біяграфічным нарысе да апошняга, трэцяга зборніка вершаў Н. Арсеннева «Між берагамі» (Нью-Ёрк —Таронта, 1979 г.) на 12 старонцы Ант. Адамовіч прыводзіць успамін паэткі пра яе першае крананне да беларускага слова, у выпадкова трапіўшым да яе вершы Я. Купалы «Я мужык-беларус».

Слова «цйомны» ў гэтым вершы гучала вельмі музычна і яно ўразіла чуллівую да музычнасці гукаў дзяўчынку. Сапраўды, гэтае слова, як і шмат якія іншыя, гучыць з адметнай музычнасцю: спачатку яно як шалясценне: «ць-ць», потым гук робіцца поўным, шырокім, як гук бомаў: «ом-ом», і, нарэшце, канчаецца кароткай, выразнай фанемай: «ны».

Мо Арсеннева звярнулася да той мовы, якая была сугучна яе душы? Бо яе вершы вельмі музычныя. Ужо ў першым зборніку «Пад сінім небам» шмат вершаў гучаць як музычныя творы.

Напрыклад, яе ранняя спроба пяра, верш «Светлы дзень», які ў 1921 годзе чытаў і выхваляў на вучнёўскай вечарыне ў Беларускай гімназіі, дзе вучылася паэтка, Максім Гарэцкі. Гэты верш —сапраўдная сімфанічная паэма. Ціхі, павольны і сумнаваты пачатак:

**«Светлы дзень дагараець**
**над сумнай зямлёю,**
**Ліпаў лісцейкі фарбай гараць**
**залатою,**
**Сад пажоўклы цямнее,**
**маўчыць...»**

Пастулова ў вершы расце напружанне, якое пераходзіць у моцны экспрэсіўны пачуццёвы паток:

**«...Я хачу, я хачу...**
**Не хапае мне сілы,**
**Каб не думаць аб тым**
**непрыхільным, нямілым,**
**Сумным жыцці апошніх**
**гадоў!..»**

Напрыканцы верша зноў надыходзіць супакой, які зліваецца з прыгожай, але абыякавай да ўсяго прыроды:

**«...Засыпаюць нячутна**
**жаданні**
**У гэты час, час маўклівы**
**змяркання».**

Заўважым, што музычнасць верша не перашкаджае аўтарцы, 19-гадовай у той час дзяўчыне, далучыцца да філасофскіх катэгорый: гора, шчасця, лёсу, смерці.

Музычнасць і філасафічнасць паэзіі Арсеннева адзначаў адзін з першых крытыкаў паэткі —Антон Навіна (А. Луцкевіч). У артыкуле пра зборнік «Пад сінім небам» (Антон Навіна, «Адбітае жыцьцё». Лекцыі і стацьці з беларускае адраджэнскае літаратуры. Вільня, 1929 г.) ён пісаў, што калі «разгорнеш кніжку вершаў Арсеннева, пераносішся... туды, дзе пануе непадзельная музыка гукаў...», «...іскрацца й пяюць словы і гукі...», «...нагляд над з'явішчамі прыроды вытварае ў паэткі жыццёвую філасофію, характэрную для нашае новае, нарастаючае інтэлігенцыі і абапёртую на магутным імкненні да жыцця, на веры, што само жыццё й ёсць шчасце, што мэта жыцця — захаваць жыццё».

Так, частка новай беларускай інтэлігенцыі, якая выйшла з сялянскага ці блізкага яму асяроддзя, у тых 20-х гадах узяла сабе за аснову выпрабаваны стагоддзямі народны «здаровы сэнс», які знаходзіў адлюстраванне ў фальклоры. Фальклор адпавядаў і душэўным настроям паэткі. Амаль палова яе першага зборніка «Пад сінім небам» — гэта пераапрацоўка ці перайманне народных матываў.

Ці актуальна філасофскае крэда Арсеннева у наш час? Як успрыме яго чытач, выхаваны на артадаксальнасці марксісцка-ленінскага светаўспрымання? Адказ дасць жыццё.

**Сяржук ЯЗЕРСКІ,**
**псіхатэрапеўт.**

г. Мінск.

## НАШ КАЛЯНДАР

**275 гадоў з дня нараджэння Георгія КАНІСКАГА (нарадзіўся 20 лістапада 1717 года ў горадзе Нежыне, памёр 13 лютага 1795 года). Украінскі і беларускі пісьменнік, царкоўна-палітычны і культурны дзеяч. Вучань Ф. Пракаповіча. У 1757 годзе заснаваў Магілёўскую духоўную семінарыю. Аўтар курсаў паэтыкі і філасофіі, інтэрмедый, вершаў, казанняў, прамоў. Творы Г. Каніскага высока ацэньваў А. Пушкін.**

●

**90 гадоў з дня выхаду (14 лістапада 1902 года) першага нумара газеты «Северо-Западный край» (апошні нумар пазначаны 8 (21) снежня 1905 года), 15 мая 1905 года на яе старонках з'явіўся першы друкаваны твор Я. Купалы — верш «Мужык». Змяшчала матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, фальклору, высока ацэньвала творчасць Цёткі. Прапагандавала тэатральнае і музычнае жыццё Мінска.**

●

**90 гадоў з дня нараджэння Міхася МАШАРЫ (нарадзіўся 18 лістапада, памёр 7 чэрвеня 1976 года). Вядомы як паэт, празаік, перакладчык. Першы зборнік вершаў «Малюнкі» выдаў у 1928 годзе ў Вільні. Прымаў актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі.**

●

**90 гадоў з дня нараджэння Сымона КУНІЦКАГА (нарадзіўся 19 лістапада, памёр 14 лістапада 1940 года). Адзін з ахвяраў сталінізму. У калектыўных зборніках, у часопісах «Маладняк», «Полымя рэвалюцыі» выступаў з рэцэнзіямі, нарысамі, літаратурна-крытычнымі артыкуламі пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, С. Баранавых, Б. Мікуліча і іншых.**

●

**85 гадоў з дня нараджэння Міхася СКРЫПКІ (нарадзіўся 26 лістапада, памёр у 1991 годзе). Гумарыст, сатырык, пісаў таксама для дзяцей, займаўся перакладамі.**

●

**85 гадоў з дня нараджэння крытыка, літаратуразнаўцы Міхася ЛАРЧАНКІ (нарадзіўся 14 лістапада, памёр 31 ліпеня 1981 года). Выдаў манаграфіі «На шляхах да рэалізма», «Па шляху рэалізма», «Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст.», «Жывая спадчына», шэраг іншых кніг.**

●

**80 гадоў з дня нараджэння драматурга Вячаслава ПАЛЕСКАГА (нарадзіўся 3 лістапада, памёр 18 чэрвеня 1971 года). Дэбютаваў у 1930 годзе вершамі. Выбраныя творы сабраны ў кнізе «П'есы» (1976).**

●

**80 гадоў з дня нараджэння ўкраінскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі Андрэя МАЛЫШКІ (нарадзіўся 15 лістапада, памёр 17 лютага 1970 года). Перакладаў творы Я. Купалы, П. Броўкі, А. Куляшова, П. Панчанкі, М. Танка, А. Вялюгіна, А. Русака, прысвяціў Беларусі вершы «Хіляцца коласам лагчыны русы», «Беларусі».**

●

**80 гадоў з дня нараджэння паэта і крытыка Яўгена ЗАМЕРФЕЛЬДА (нарадзіўся 25 лістапада, памёр 29 красавіка 1980 года). З 1929 года друкаваў вершы ў літаратурным дадатку да бабруйскай газеты «Камуніст» — «Вясна», пазней —у часопісах «Узвышша», «Полымя» і іншых.**

**Алесь РАЗАНАЎ**



## Пункціры

●

У вёсцы.
Як дзіўна зноўку пачуць
гаворку,
знаёмую з немаўленства,
ад незнаёмых людзей.

●

Стаяць на балоце
стагі
з аснежанымі вярхамі —
тутэйшыя горы.

●

На непарушным снезе
лёгкі заечы след
і чалавечы —
цяжкі.

●

Ялінка на сметніку:
вось і ўвесь новы год!..
вось і ўсё наваселле!..

●

Зіхоткая поўня —
акно,
з якога
глядзіць у душу нябыт.

●

Вісяць між пупышак
замерзлыя кроплі —
таксама
вясны чакаюць!

●

Чакаем таксоўку ўначы:
чарга
пасунулася на адно месца —
і то весялей.

●

Чырвоны дом на гары —
уволю
я ў ім нагутарыўся б
з цішынёй.

●

Абудзіўся сярод суровых
зімовых палетакаў:
куды пацячэш,
ручай!!.

●

Які пахмурлівы небакрай!..
Адтуль
вясна надыходзіць.

●

Бягуць ручаіны
у полі —
звівы
жвавай гаворкі.

●

Бярэзіна
і без лістоты,
шпакоўня
і без шпака —
пытанні, узнятыя ўгору:
ці не забыўся
пра іх сакавік!

●

Беляць у садзе вясновым
камлі —
галіны
самі пабеляцца неўзабаве.

●

Вісіць і не падае
у паветры
зялёны дождж:
ніцыя вербы зазеляненелі.

●

Вясновы самотны вечар.
Гуляе дзяўчынка
у хованкі з маладзіком.

●

Ля лазні
бярозы ў набраклых пупышках
і дзед-прадавец з вязанкаю
леташніх венікаў:
не спазніўся!!.

●

Гром загрымеў —
і адразу
аціхлі ўсе галасы:
нябёсы гавораць!

●

Першыя кроплі дажджу:
на плітах
азбука кропак.

●

Ладкуюць гнёзды гракі:
абламанае вецце
зноўку
вяртаецца дрэвам.

●

Марудныя доўгія чэргі —
яны адны
яднаюць усіх сягоння!

●

Вішня наўскрай дарогі,
спяшайся
першаю расцвісці —
у пчол
абранніцай будзеш.

●

Ходзіць паважны грак
між квітнеючых сліў
па двары —
гаспадар,
што вярнуўся з замежжа.

---

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

# ПЕРШАЯ ЖОНКА НЯБОЖЧЫКА



### Эпілог адной гісторыі

*Аляксандры Васільеўне К-СТА*

...ЯНА АДЧЫНІЛА дзверы, не пазваніўшы, хоць пераступала гэты парог першы раз. За трыццаць два гады. У т а к і дзень—ведала яна—дзверы не замыкаюцца.

У вузенькім пярэднім калідорчыку цесна стаяла некалькі жанок з адпаведным выпадку самотным выразам на тварах. Яна павіталася з імі маўклівым нахілам галавы, беспамылкова—сама сабе—адзначыўшы: удавы сярод жанок не было. Ёй гэтак жа самотна паказалі, дзе можна распрануцца, і з пярэдняга калідорчыка яна зайшла ў выцягнуты суседні пакой, які несумненна служыў за спальню. Там стаяла адзежная шафа і люстра, чамусьці не завешанае, як вымагаў таго звычай, калі ў доме быў нябожчык. Стаялі два ложкі, прыбраныя аднолькавымі бляклымі пакрываламі. Ложкі—зноў зазначыла яна ні то здзіўлена, ні то нават з ледзь адчутным задавальненнем—стаялі ў нязвычнай для спальні асіметрыі: адзін насупраць уваходных дзвярэй, другі ля супрацьлеглай сцяны ўзгалоўем да акна... Яшчэ кінулася ёй у вочы ў гэтай спальні даўно забытая старая знаёмая—самаробная кніжная паліца. Значыць, і яна знайшла сабе тут прытулак? І ўсе даўнія яе насельнікі—рамантычныя куміры і ўладары яе ўласных юнёслых парыванняў з яшчэ юнацкіх гадоў, яны таксама, перабраўшыся ў гэты вузкі пакойчык, натхнялі ўсе гэтыя гады ўжо не яе?.. На паліцы яшчэ весела месцілася, стракатая вокладкамі і зместам, займальная дзіцячая бібліятэка прыгод. Падпісное выданне—сорак тамоў! — сабранае некалі з гэтакім клопатам пра іх л ю б ы х д з я ц е й...

Яна не паспела нічога больш акрэслена ўспомніць і падумаць. Яна скінула паліто і глядзела, куды яго пакласці сярод іншага, гэтаксама чужога тут адзетку.

— Можна сюды пакласці, на ложак,—пачула яна ў сябе за спіной нягучны інтэлігентны голас.—Ці на крэсла.

«Гэта ўдава» — спіною адчула яна і хутка павярнулася, трымаючы паліто ў руках.

Яны стаялі адна перад другою—першы раз за трыццаць два гады—твар у твар.

Удава была ў прыстойнай стрыманай жалобе. Строгі цёмны гарнітур і спушчаны адным канцом на грудзі ажурны чорны шалік пасавалі да яе круглявай постаці і былі ёй да твару, маладжавага, ружовага, адцененага рыжыною валасоў, пафарбаваных хною з басмай.

«Мяккая... Кошачка... І выглядае маладзейшай за мяне, хоць і старэй на два гады»...—Без аніякага эмацыянальнага адцення зазначыла адна.

«Божа, і ўсе гэтыя трыццаць два гады ён не забываў яе ніколі...»—адчула міжвольны ўкол жаночаму самалюбству другая, паспеўшы ўмомант узважыць і ацаніць і сівізну і зусім нічым не адметную прывабнасць знешняга вобліку першай. Каго-каго, а яе сёння, тут, сама яна не чакала і зусім не жадала ўбачыць яе ў сваіх сценах.

Не чаканая і не жаданая хутка паклала паліто на крэсла і, нічога больш не ўспамінаючы і не ўзважваючы, зрабіла імклівы крок насустрач удаве. Адчуўшы непадробнасць гэтага памкнення, удава таксама працягнула рукі. І яны абняліся. З міжвольнай шчырасцю, з імгненным усведамленнем незваротнай страты таго а г у л ь н а г а, што ніколі не змірыла б іх у жыцці, калі б не надышоў г э т ы д з е н ь. Яна пацалавала ўдаву. Пацалавала, падсвядома даводзячы сабе, што ў гэты дзень той павінна было быць цяжэй, чым самой ёй. І гэтак жа падсвядома згадзілася сама з сабою, што ўсе цалуюць удоў.

— Вось калі толькі давялося стрэцца... У такім няшчасці.. — стрымана заплакала ўдава, і дзіўна: у гэтых словах і слязах яе ўжо не адчувалася толькі імгненне назад прамільгнуўшай шчырасці.

— Так... У няшчасці...—адказала яна, таксама не стрымаўшы слёз. Аднак адолець слёзы ёй памагла яна ж сама, другая. «А што перашкаджала стрэцца ў шчасці?.. У вас жа, пэўна, яно было... Хаця б адзін раз за трыццаць два гады, жывучы ў адным горадзе, стрэцца з уласнымі дзецьмі і ўнукамі? Ды і з мужавымі не грэх было б стрэцца. У вас жа сваіх —агульных—дзяцей не было». (Яна зусім не мела на ўвазе стрэчу іх саміх, абедзвюх. Ім-то яна была непатрэбная).

І моўчкі, поруч, яны накіраваліся ў другі пакой, дзе іх, першую жонку і ўдаву, строга выпрастаўшыся ў труне, страчаў ён.

●

Некалі яна сама пакінула яго. Па жывому, з крывёю ўсё адрэзала, скасавала, закрэсліла. І заплаціла за гэта, вядома, цану гэтакай жа дарагой крывёю.

Цяпер яна рэдка калі ўспамінала яго, і смерць яго стрэла не як страту некалі блізкага чалавека. Паведамленне гэта ў першы момант яе хутчэй здзівіла: як гэта раптам ён узяў і памёр? Яна заўсёды была ўпэўнена, што першай пойдзе яна. Чаго было яму не жыць?

...Раніцай нечакана ў дзверы ёй пазваніла дачка.

— Чаму ты не на рабоце?—пільна ўзіраючыся ў бледны даччын твар, здзівілася і нават спалохалася яна прыходу дачкі ў такі час.—Што-небудзь здарылася?

— Бацька памёр,—не адразу, сцішана, усяго толькі прамовіла дачка.

— Божа мой! Калі?

— Пазаўчора вечарам.

— Адкуль ты даведалася?

— Учора пазваніла Ларыса.

(Бацькава пляменніца ўжо ўчора паспела прыехаць ці прыляцець з другога далёкага горада?..)

— І доўга ён хварэў?

— Раніцою забрала «хуткая», а вечарам...

— Шчаслівы... Як праведнік памёр... Ты ідзеш зараз туды?—спытала яна дачку.

— Я там начавала.

—Я таксама хацела б пайсці...—няўпэўнена, не ведаючы, што адкажа ёй дачка, сказала яна.

— А чаму табе не пайсці?

— Я толькі збяруся... Я ж не чакала. Мне трэба...

— Ты нядоўга толькі збірайся.

— Сёння я не павінна выглядаць т а м абы-як... Ты ж разумееш.—Пераапранаючыся і зазіраючы сябе перад люстрам, адказала яна і ўсміхнулася, правозячы памадай па вуснах.—І бацька твой сёння ўжо на мяне не будзе злавацца.

...Па дарозе яна купіла яму кветкі. Бела-чырвоныя гваздзікі. Толькі з грады. Яшчэ росныя... У яе мала было дома грошай, і яна купіла столькі кветак, на колькі іх хапіла. У дачкі ўзяць грошы адмовілася: «Сёння я сама»...

Прымяркоўваючы свае кветкі так, каб яму было прыемна—так хацелася ёй думаць,—без голасу яна сказала яму: «Я не спадзявалася на такую стрэчу з табою... Сёння...»

Яна правяла рукою па яго грудзях. Пагладзіла зледзянелую руку. Пастаяла над ім, узіраючыся доўгім позіркам у бледны профіль, («Якое дзіўнае падабенства з Качалавым»,—нечакана заўважыла яна) і паволі апусцілася ў крэсла каля труны. Побач з яго несуцешнай сястрой. Яна абняла сястру за плечы, і тая, адарваўшы рукі ад твару і пазнаўшы яе, зарыдала яшчэ мацней... Некалі, у маладосці, калі яна жыла яшчэ ў іх сям'і, яны з сястрою не толькі радніліся, але і сябравалі і жылі душа ў душу, ніколі, ні разу па-сапраўднаму нават не перагаварваўшыся.

— Божа мой! Такі прыгожы... Такі малады... Навошта табе было пакідаць гэты свет, гэтак раптоўна... Ці ж ён надакучыў табе... Ці ж ён быў табе кепскі, гэты свет? Гэта жыццё...— рыдала сястра, прыпадаючы да труны.

А ён і сапраўды, пры святле свечак, здаваўся дзіўна маладым і прыгожым. Нібыта не сам ён, а нехта іншы пражыў за яго і жыццё яго і гады яго... І ёй міжволі ўспомнілася, якім стрэла яна яго ўпершыню зімой у сорак першым годзе, у эвакашпіталі. Калі прыбыў самы першы эшалон з параненымі. У татарскім сяле Асекеева, дзе яна працавала тады бібліятэкаркай. Таварышкі-медсёстры прымалі параненых і разводзілі па палатах, а яна разносіла і раздавала ім свежыя газеты і часопісы. І запісвала ахвотнікаў тут*жа, у прыёмным пакоі, у сваю бібліятэку. З усіх яна вылучыла высокага худога сяржанта на мыліцах. Той адметны сяржант адразу ж набраў у яе газет і часопісаў, а таксама запісаў у яе сшытак, каб назаўтра яна абавязкова прынесла яму ў палату «Кабзара»... Пасля, калі вясной ён ужо выпісаўся са шпіталя і да новай адпраўкі на фронт служыў у запасным стралковым палку дзяжурным пры штабе, калі яны з ім ужо амаль штодня страчаліся і гулялі па навакольных, як падушкі, раскіданых маляўнічых пагорках (а мясцовыя жыхары звалі іх паважна-самавіта гарамі), з таго шпітальнага «Кабзара» ён не раз паўтараў ёй самы любы і самы патрэбнейшы ёй тады радок: «Оцю Марину я знайшов...»

Ніводнай жанчыне ў свеце—думала яна тады—ён не здолеў бы паўтарыць гэтага радка. Бо ніводная жанчына ніколі не ступала побач з ім па тых вясновых гарах. Праўда, адна магла б ступаць... Ды навошта яны былі ёй патрэбныя, тыя пагоркі-падушкі, калі яна здолела выхапіць з пекла вайны і прывезці ў тое ж самае татарскае Асекеева свае хатнія падушкі пуховыя... Муж-лётчык з самага пачатку вайны не падаваў голасу. (Толькі грашовы атэстат яго ішоў і спраўна разлічваўся і карміў яе). І было невыносна чакаць і безнадзейна спадзявацца на яго зварот, маючы маладое здаровае жаночае цела. Вайна ішла вайною. А жыццё заставалася жыццём... І пуховыя падушкі вабныя былі зусім не менш, чым рамантычныя стрэчы з чытаннем вершаў і даверлівым дзявочым наівам. Тым больш, што адно другому не замінала...

●

«Даў бог —
пражыла цэлы век,
а не ведаю,
у якім баку сэрца...» —
бабулі
ў царкоўным падворку.

●

Вяду вясноваю вуліцаю
з бальніцы
маці сваю старую —
вяду
сваю старасць.

●

Крывенькая яблыня ў полі —
хоча ўцячы
з гэтага месца,
дзе пасадзілі!!

●

Цвітуць на бальнічным двары
жоўтыя дзьмухаўцы —
уцеха
вачам чыімсьці.

●

Селяцца ў коміне хаты
вароны —
зрабіцца
чарнейшымі захацелі!

●

Калючы асот —
але вунь, глядзі:
пчала з ім сябруе.

●

Мокне на беразе возера
з вудай рыбак —
злоўлены язь
ловіць ротам дажджынкі.

●

Старыя дамы:
хацеў бы
зайсці ў кожны з іх,
у кожным
пажыць хвіліну.

●

Паўзлазілі дзеці на дрэва—
дом,
што дарослымі не заняты.

●

Ледзьве відаць яго —
а запоўніў
сабою ўсё паднябессе:
жаўрук спявае.

●

Каля зялёнага дрэва
скульптура з дрэва:
маўклівая спрэчка
пра дасканаласць.

●

Ускрай маладога жыта
сінія васількі —
сінія буквіцы
ў кнізе лета.

●

Вышэй за царкву
комін фабрычны:
дым
таксама малітва!

●

Усё ў ім галініцца,
усё разнастайваецца,
усё
няспыннае паўтарэнне:
дрэва —
ці, можа, само жыццё!

●

Косяць —
але ні для кога:
такі твой лёс,
трава-гараджанка.

●

Па-над запруджанай вуліцай
лётаюць жвавыя матылькі:
машыны гэтак
не могуць.

●

Вярбіны,
нахіленыя па-над ракою:
як гэта —
плынь цячэ,
а іх адлюстраванні
застаюцца!!.

●

Спахмурнела —
і глыбіня
вярнулася наваколлю.

●

Канчаецца дзень —
у дрэў
выраслі цені.

●

Шчаслівіцы-вербы:
такая сухмень —
а яны з ракою.

●

Бярозы каля царквы —
дзве белыя постаці
прыгажосці.

●

Дождж!.. Дождж!..
І дзе ты быў усё лета!!. —
плачуць сады.

●

Развітваемся:
прастора
ўбірае словы,
словы — прастору.

●

Старая таполя
з парэпанаю карою —
няспынна цякуць
па ёй ручаінкі часу.

●

Такая празрыстая далячынь —
відаць
нядаўняе лета.

●

На скрынцы для смецця
цярпліва
сядзіць крумкач.
Раніца ўвосень.

●

Уранку я выйшаў з дому
і ўвесь дзень ішоў
у кірунку да сонца.
Якім супярэчлівым аказаўся
мой шлях!..

---

— Дажыць да такой павагі, да такой забяспечанасці і дабрабыту! І раптам узяць і пайсці вось гэтак і ўсё пакінуць...—ламала рукі сястра...

«Усё застаецца людзям»...—Не сваё—агульна-вядомае—у думках паўтарыла яна, не першы раз дзівячыся, якая непадкупнасць і бескампраміснасць у Найвышэйшага Прысуду. За жыццё аддай толькі жыццё. І не мае значэння — раем яно было чалавеку на зямлі ці пеклам. І ніхто не здольны адкупіцца!

Яна сядзела побач з сястрой. Яна не плакала. Разы са два падымалася—яна сядзела з другога боку труны—і садзілася каля яе ўдава. Адчувалася, што гэта не чаканая і не жаданая ёю п р ы с у т н а с ц ь нервавала і замінала ёй пра нешта запытаць ці самой сказаць нешта. Але што было казаць? Пра што пытацца? Ні ў адной з іх не знайшлося б патрэбных слоў. Ды і непатрэбныя яны былі тут, ніякія словы. Удава неўзабаве ўставала і зноў ішла на сваё месца ці выходзіла з пакоя. Яна была заклапочана памінальнай вячэрай... Нешта на кухні рыхтавалася. Нечага—па даведцы аб смерці — не дадалі ў гастраноме. Удаву ўсё гэта турбавала і, вярнуўшыся на сваё месца да нябожчыка, яна напаўголасу, засяроджана, абмяркоўвала свой клопат з мужчынам, што сядзеў побач з ёю. Відаць, нехта з яе блізкіх.

— Хто гэта жанчына, што сядзіць каля сястры?
— Першая жонка нябожчыка...

Яна чула гэтыя перашэпты, заўважала кіўкі галавою ў свой бок. Яна не мянялася ў твары. Не змянялася паставы. Сядзела выпрастаная, супакоеная, бязмоўная. Слухала. Успамінала.

(Дома, пасля пахавання, нявестка спытала ўнука: «Як трымалася бабуля?» «Як Маргарэт Тэтчэр»,—адказаў унук. «Маладзец!»—пахваліла нявестка.)

...Заходзілі ўсё новыя людзі. Клалі кветкі нябожчыку пасівелыя і зусім ужо белагаловыя суровыя мужчыны з ветэранаў. Вялікай... Айчыннай. З кійкамі. З прыгнутымі гадамі і жыццём спінамі. Усе з ордэнскімі калодкамі, з баявымі ўзнагародамі на грудзях.... Яна глядзела на іх парэзаныя маршчынамі твары і міжволі ўспамінала с в а і х—з таго замглёнага часам Асекееўскага эвакашпіталю—без аніводнай маршчынкі маладыя хлапечыя аблічы, іх няўрымслівыя парыванні, не далячыўшыся нават, хутчэй, хутчэй вяртацца на фронт. Біць фрыцаў («За радзіму! За Сталіна!..»)

...На гэтых апошніх праводзінах ветэраны нібыта трымалі разам з нябожчыкам кругавую абарону, нібыта аднаўлялі шлях, які прайшоў ён па вайне. Як браў Берлін. Як, паранены на подступах да гэтага фашысцкага логава, знайшоў усё ж сілу распісацца, пакінуць на сцяне адоленага рэйхстага сваё прозвішча... Пра той гістарычны шлях і час, пасля вайны ўжо, у павучанне нашчадкам, ён напісаў к н і г у ўспамінаў.

Яна слухала, намагаючыся ўнікнуць у гераічны жыццяпіс нябожчыка, і дзівілася. Бо сама яна ведала зусім іншае. Паранены ён там, пад Берлінам, дзякаваць богу, не быў. Бо не было Берліна... І рэйхстага не было. Быў Дунай («Вясна сорак пятага года...»). Была Вена. З Вены той вясны яна атрымала ад яго фотаздымак — ён, старшы сяржант, на ўвесь рост, каля помніка Іагану Штраусу... І яна тады страшэнна ганарылася ім! Перад таварышкамі-студэнткамі. Штраус (Хто не ведаў яго «Казак Венскага лесу»?) надаваў я е (іх) каханню рамантычнага арэолу.

...Выяўлялася, што нябожчык напісаў і пакінуў нашчадкам яшчэ і к н і г у... І ў яе памяці, як на негатыве, аднаўлялася даўняя пакута, якая была некалі ў іх дома, калі яму трэба было здаваць яго завочныя іспыты. Канспектаваць першакрыніцы класікаў марксізму-ленінізму... Сталін ішоў яшчэ сяк-так. Яго вучэнне і яго працы былі, як габляваныя дошкі. А вось ужо Ленінаў «Матэрыялізм і эмпірыякрытыцызм»! Яна сама карпела тады ночы, памагаючы выкараскацца яму з тых джунгляў... А вось бачыш—чаго толькі не вырабляе дзіўны час!

Выяўлялася, што цяпер ужо ўнукі мелі магчымасць чытаць і вучыцца па д з е д а в а й к н і з е.

...Спыняліся каля труны, ўпрыгожвалі кожная сваімі кветкамі і падоўгу ўгледаліся ў нябожчыка жанчыны. Яшчэ і не зусім безнадзейнага ўзросту і старыя. Уздыхалі. Выцiралі вочы хусцінкамі. Успаміналі кожная сваё. Паглядная, дагледжаная кабета, прыбраная як да ўрачыстага прэзідыуму, тая дык наогул дакарала нябожчыка:

— А я ж збіралася яшчэ танцаваць на вашым васьмідзесяцігоддзі. Як мы з вамі танцавалі ў рэстаране на вашым мінулым юбілеі... У нас жа з вамі не было сапернікаў—перамагчы нас у танцах!

«Бедныя вы, бедныя... Сапраўды невыноснае ў вас развітанне пасля такіх непераможных скокаў... А дзе ж былі родныя дзеці? Чаму ж не пазваў бацька дачку з сынам на той свой развясёлы юбілей у рэстаране?..» Сама яна ў той дзень—добра памятала —была з хворым унукам у бальніцы. Яна свае юбілеяў у рэстаранах не святкавала... Ёй даставаліся бальніцы, вакзалы, аэрапорты. Яна страчала і праводзіла: на цаліну, у Афрыку... Яна бясконца здавала іспыты. Бо ў яе былі дзеці. Я е д з е ц і!

— На свеце не было і ніколі не будзе болей такіх людзей!—плакала старая жанчына з кіёчкам, схіляючыся над труною.—Спяшаюся неяк раніцою ў чаргу па малако... Слізгота—не ўстояць на нагах. А ён на сваёй машыне мяне даганяе... Параўняўся са мною, спыніў машыну: «Куды гэтак спяшаецеся, Ганна Трахімаўна?» «Ды малачка, баюся, каб не прапусціць, кажу». А ён мне: «Сядайце ў машыну, кажа, завязу вас дадому. Я, кажа, нам з Палінай Паўлаўнай малака ўжо купіў, дык будзе і вам...». Завёз мяне дадому ды яшчэ і з малаком... Дык як трэба было дзякаваць за такую дабрыню такому чалавеку...

Слёзы старой жанчыны былі непадробныя... Яна сама, штодня марнуючыся ў чэргах з торбамі, з сумкамі, што абрывалі рукі і адбіралі ўсю сілу, яна і сама ў ногі, здаецца, пакланілася б таму, каб хто хоць раз вось гэтак спыніў перад ёю на вуліцы машыну падвезці яе. Ці каб паднесці хто, дужы, прапанаваў...

...Яна ўжо забыла і ніколі не ўспамінала пра іх уласную машыну. Колькі яна некалі напазычалася на яе па радні!.. Сваіх грошай не хапала, а мужу, як напрыканцы свету, жадалася «Масквіча» новага выпуску!.. (Вайну ён скончыў, сам яго выдатна водзячы, на штабным трафейным «опелі»...) Восем гадоў потым і яна сядзела з ім побач на тым «Масквічы»... Праўда, уцехі і вялікай радасці ад «Масквіча» яны не мелі. Пасля, калі яны былі ўжо не разам, на тым іх блакітным «Масквічы» не раз мяняліся вясёлыя кабеты... Не адзін раз знарок, на злосць ёй, ён заязджаў і забіраў ехаць у грыбы ці ў ягады іх суседзяў ці суседскіх дзяцей. І тады, па жывой яшчэ болі, яна не шкадавала яму самых страшных праклёнаў... Паступова ўсё гэта адбольвала, сціхвалася, нямела.

— На свеце не было такіх людзей і не будзе болей,—плакала старэнькая з кійком у руках. Пэўна ж, адзінокі на зямлі, удзячны за дабрыню чалавек.

Як было звязаць у адно: пры такой дабрыні і спагадзе да ўсяго свету, як амаль у адзін голас ледзь не плакалі ўсе гэтыя незнаёмыя ёй людзі, як было звязаць у адзін вузел тое, што за трыццаць два гады, як самі яны зрабіліся адно аднаму чужыя і непатрэбныя, ён ні разу не стрэўся з уласнымі дзецьмі? Школу, пакуль дзеці вучыліся, спачатку спрабавалі наведваць прафсаюзныя апекуны. Каб даведацца, як дзеці вучацца і як выхоўвае іх маці. Ці корміць, ці даглядае іх... Наведваліся, пакуль дырэктарка не выправіла тую апеку за дзверы: «Я ні разу не бачыла ў школе бацькі гэтых дзяцей. Школа яго не ведае. Школа ведае іх маці. І прафсаюзы мяне, дырэктара школы, не цікавяць!»

Праз гады дарослага ўжо сына наведваў на рабоце пасланец ад партыйнай арганізацыі, дзе на ўліку стаяў бацька. Але сын быў беспартыйны, і размова не атрымалася... Стрэўшы выпадкова дзе на вуліцы, бацька, пэўна, не пазнаў бы сваіх дарослых дзяцей, у якіх былі ўжо ўласныя дзеці. Унукаў сваіх ён таксама ніколі не бачыў.

...Дачка даведалася першая, і дачка праседзела пры бацьку ўсю ноч.

Сын быў у ад'ездзе.

Маці спытала яго потым: «Можа, ты, сынок, яшчэ і паспеў бы да бацькі?..».

І сын адказаў ёй: «Я ўсё жыццё маліў Бога, калі здарыцца... Калі надыдзе гэты непазбежны дзень, каб Ён адвёў мяне далёка... І Бог пачуў маю малітву».

Сын паставіў свечку і памаліўся за бацьку ў царкве.

Унукі прыйшлі развітацца з дзедам і прынеслі яму кветкі.

І зноў перашэптваліся і ківалі галовамі добрыя людзі:

— Унукі прыйшлі... Унукі прыйшлі...

І зноў абдымала труну і дарэмна будзіла брата сястра:

— Устань!.. Устань-падніміся, паглядзі, якія ў цябе ўнукі!

Прыгожыя юныя твары ўнучкі і ўнука былі самотныя: у іх ніколі, як у іншых дзяцей, не было любага дзеда... Каб ён панасіў іх на руках, каб правёў ці стрэў са школы, каб пакатаў і навучыў вадзіць машыну...

Яна ўспомніла, як некалі, яшчэ маленькую, нехта з дзяцей у двары падражніў яе дачку: «Ага, ага! А ў цябе няма дзядулі, а ў мяне ёсць!..» І яе дзіця, заліваючыся слязьмі ад крыўды, крычала, што было сілы, у твар свайму крыўдзіцелю: «А вось ёсць і ў мяне! У мяне былі дзве дзядулі і абедзве памерлі!»

...Дзяды і бабулі патрэбныя дзецям не меней за бацькоў. Ад іх існавання і прысутнасці на доўгія гады застаецца ў дзяціных душах цеплыня, якой, па маладосці, не заўсёды хапае бацькам.

...Цяпер яны ўсе—дачка і ўнукі—сядзелі ля труны побач з ёю. І яна, як ніколі ў сваім жыцці, адчувала сябе абароненай і моцнай. І калі надышоў час выносу цела, і яна ўжо апранала паліто, да яе яшчэ раз падышла ўдава:

— Вы не паедзеце?..

У голасе яе гучала запытанне і надзея.

— Мы з дзецьмі абавязкова паедзем!

Яна не сказала: «Я паеду»... Яна сказала: «М ы з д з е ц ь м і паедзем»... Яны заўсёды былі яе падтрымка і апора. І яна не пажадала застацца без іх у гэты момант.

●

...У крэматорыі—кажуць, туды, на тую, не параўнаную ні з якой іншай, службу ўладкоўваюцца і выпускнікі тэатральных інстытутаў— маладая прыгожая жанчына свой службовы абавязак выконвала выключна карэктна і прафесійна жалобна. Родных і блізкіх яна запрасіла стаць з правага боку ад труны з нябожчыкам. Сябрам і знаёмым належала стаць з левага.

Першая жонка нябожчыка, яна не была тут ні роднай, ні блізкай... І яна стала сярод з н а ё м ы х. Дачцэ і ўнукам яна паказала стаць для апошняга развітання там, дзе ім належала стаяць.

Пасля таго, як былі выказаны нябожчыку ўсе апошнія словы, разам з яго сябрамі і знаёмымі яна абышла труну і, як і ўсе, па загаду маладой афіцыйнай жанчыны, кранулася і затрымала сваю руку—на апошняе развітанне—на халодным краі драўлянай труны.

І гэта было ўсё.

Свой абавязак яна выканала.

...Дзецям яна сказала, і яны паехалі агульным аўтобусам на жалобную вячэру. Яе самую дачка пасадзіла ў малалюдны вайсковы «рафік», на якім вярталіся туды ж сябры нябожчыка—ветэраны. Па дарозе яна папрасіла шафёра спыніцца на патрэбным ёй прыпынку і, выходзячы з «рафіка», пажадала ўсім:

— Жывіце доўга!

Ёй падзякавалі ў адзін голас.

— Хто гэта жанчына?—спытаў нехта.

— Першая жонка нябожчыка.

— А хіба ў яго была і першая? Я не ведаў.

— Была...

ВЫБІРАЕМ ГІМН

**Звяртаем увагу творцаў — кампазітараў, паэтаў—на тое, што ў іх ёсць яшчэ шанц зрабіцца аўтарамі музычнага сімвалу нашай дзяржавы: конкурс на стварэнне гімна Рэспублікі Беларусь прадоўжаны да 1 снежня, бо разгляд прадстаўленых на грамадскае абмеркаванне твораў плённых вынікаў не даў. А ў рэдакцыю тым часам прыходзяць лісты, аўтары якіх дзеляцца думкамі з нагоды праслухоўвання сямі варыянтаў гімна, што прагучалі па радыё. Два чытацкія допісы мы сёння змяшчаем.**

# Без слоў, але ж—музыка...

Не магу ўтрымацца, каб не выказаць сваё меркаванне наконт Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Я ўважліва праслухаў па радыё ўсе сем варыянтаў будучага гімна, вылучаных камісіяй для ўсеагульнага абмеркавання. Пазнаёміўся са словамі шасці з іх, сёмы без слоў, і вось якія думкі прыходзяць.Назіраецца ў словах яўнае шараханне з аднаго боку ў супрацьлеглы. Дый у большасці з іх словы звернутыя ў мінулае, а не ў будучыню. Што ж датычыць музыкі, то яна ва ўсіх шасці варыянтах, за выключэннем сёмага, не надта выразная, запамінальная. А Дзяржаўны ж гімн, як я разумею, трэба будзе вывучыць і ўмець праспяваць кожнаму грамадзяніну Рэспублікі Беларусь.

Прарабіўшы ў школе 37 гадоў выкладчыкам музыкі, трымаю на слыху шмат рознай музыкі, як для дарослых, так і для дзяцей. І вось, супастаўляючы ўвесь гэты багаж ды сем вылучаных твораў, што прэтэндуюць на гімн Рэспублікі Беларусь, лічу самым удалым з іх сёмы, які прадстаўлены пад дэвізам «Белая вежа». Твор, як я мяркую, напісаны сучасным кампазітарам. Што ж, гонар яму і пашана, калі ён стварыў такі ўзнёслы, выразны, завершаны па форме і адшліфаваны да бляску твор. Праўда, музыка без слоў. Але, мне думаецца, знойдуцца ў рэспубліцы літаратурныя сілы, здольныя напісаць іх.

**Рыгор ІГНАЦЕНКА.**
в. Паплавы,
Бярэзінскі раён.

# Конкурс для «выбраных»?

Гімн рэспублікі. Якім яму быць? Здавалася б, сёння гэта ўжо можна сабе ўявіць дзякуючы перадачам радыё і водгукам у друку. Сем вылучаных на ўсенароднае абмеркаванне варыянтаў даюць уяўленне пра вынікі больш чым паўгадовай працы прафесійнікаў у галіне паэтычнага слова ды кампазіцыі. Але дзіўная акалічнасць. Паведамлялася, што прадстаўленых на конкурс, у абумоўлены тэрмін, твораў — пяцьдзесят. Мне нават выпала нагода пагартаць складзены з іх зборнік, аддрукаваны Міністэрствам культуры. І аказалася, што сярод варыянтаў гімна, што прагучалі па радыё, няма ніводнага з гэтага зборніка! Такое ўражанне, што ці пасля, ці адначасова з афіцыйным ладзіўся гэткі «свойскі» конкурс для абраных, дзе і тэрмін можна было падоўжыць, і неабходныя папраўкі зрабіць, адпаведна заўвагам калег...

Не настойваю, што было менавіта гэтак, але наўрад ці арганізатарам конкурсу ўдалося захаваць неабходную строгасць у выкананні конкурсных умоў, і наўрад ці ў камісіі ёсць прадстаўнікі шырокай грамадскасці.

Зрэшты, мо гэта ўсё неістотна, бо важны творчы вынік? Дык сапраўды, прадстаўленыя на суд шырокай публікі сем работ і дыхтоўныя, і важкія. Ды вось ужо цудоўны сам па сабе твор «Магутны Божа» ўмовам конкурсу фармальна не адпавядае, бо ў ім роля беларускага народа ў станаўленні й жыцці рэспублікі не адлюстравана, а мы ўжо так выхаваныя (не маю тут на ўвазе рэлігійныя пачуцці), што на Бога спадзяёмся, а і самі павінны рупіцца. Не палемізуючы з Г. Сурмач, якая ў жнівеньскім нумары «ЛіМа» цудоўна выказалася пра гэты сапраўды выбітны твор, адзначу, што яна не мае рацыі, крытыкуючы яго манеру выканання па радыё. Мне дык цяжка ўявіць «Магутны Божа» ў аркестравым (тым больш духавым) суправаджэнні. І ў гэтым яго слабізна як варыянта гімна.

Інструментальны варыянт («Белая вежа») строгі й афіцыйна-ўрачысты. Можна назваць яго, не ў крыўду аўтару, «фанфарным». Музычная тэма добрая, але прадстаўленая інтэрпрэтацыя, перадаючы тэму, не стварае глыбіню, ды і адсутнасць слоў усё ж збядняе ўражанне.

Мабыць, выбіраючы гімн, заручыцца формулай Р. Барадуліна, які мяркуе, што «гімн павінен быць старым, як фамільнае срэбра»? Сапраўды, калі нашы сцяг ды герб прыйшлі з гісторыі, дык мусібыць паводле той самай логікі трэба знаходзіць і сімвал музычны? І тут у нас ёсць выбар. Старабеларускія «Пагоня», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», прадстаўленыя камісіяй як варыянты гімна, мяркуючы па водгуках у друку, маюць багата слухацкіх сімпатый. І ўсё ж можна пагадзіцца з тымі, хто лічыць, што тыражаваць ваяўнічыя сімвалы нашай дзяржаўнасці нявартa. Дастаткова герба «Пагоня», што сімвалізуе нашу рашучасць абараняць сваю незалежнасць з мечам у руках. Ды Беларусь крочыць у сусветнае супольніцтва з аліўкавай галінкай, і гэты міралюбівы дух павінен адчувацца ў нашым Дзяржаўным гімне. Між іншым, калі сучасныя варыянты гімна крытыкуюць за традыцыйныя музычныя вырашэнні, дык у старых гімнах музыка мае тыя ж традыцыйныя «маёвачныя» клішэ, тыпу «Смело, товарищи, в ногу...»

Што ж да сучасных варыянтаў, прадстаўленых у радыёперадачах... Тэкст пад дэвізам «О, фартуна!» перагрувашчаны лозунгамі, мо *нават павярхоўны*, мітынговы, але запамінальны. Пры добрай музыцы гэты варыянт мае права на прызнанне. «Трэці варыянт» з больш стрыманым і ёмістым тэкстам, цікавай паэтычнай знаходкай у прыпеве, што дазваляе пазбегнуць паўсюдных паўтораў пра «бел-чырвона-белы». Аднак музычнае аблічча «Трэцяга варыянта» крыху прайграе параўнальна з папярэднім варыянтам: больш звыкла-традыцыйнае, больш цяжкаважнае. Што датычыць варыянта пад дэвізам «А хто там ідзе» — ён пры сваёй увогуле дыхтоўнасці ўяўляецца больш слабым і па тэксце, і па музыцы ў параўнанні з двума памянёнымі.

Усё сказанае — толькі мае суб'ектыўныя думкі, адно са шматлікіх меркаванняў. А дзесьці, мабыць, яшчэ пішацца беларускі гімн, што, як некалі «Марсельезу», запяюць адразу і ўсе. А сёння я гатовы ўстаць пад гукі «Фартуны», «Пагоні» і «Трэцяга варыянту» таксама. Толькі б не было вайны.

Жыве Беларусь!

**Анатоль СЕРГІЕНЯ,**
**інжынер.**
г. Мінск.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## КРОК АД КАЛОЖЫ

**Ля сцен старадаўняй Каложы ў Гародні адбылося традыцыйнае пасвячэнне другакласнікаў 9-й сярэдняй школы ў «маленькіх грамадзян» горада. Ні пранізлівы кастрычніцкі сівер, ні магчымасць вырашыць у выхадны дзень бытавыя патрэбы не перашкодзілі бацькам разам з дзецьмі прыйсці да святога месца, каб узяць удзел у гэтай імпрэзе. Ужо трэці год запар 9-й школай наладжваецца такое сімвалічнае пасвячэнне. Тут даўно зразумелі, што падчас самараспаду акцябрацкіх і піянерскіх структураў у школе не павінен утварыцца духоўны вакуум, што дзецям неабходны духоўныя арыенціры, заснаваныя на сапраўдных культурна-гістарычных, маральных каштоўнасцях. А ідэя ўрачыстасці пасвячэння ў маленькія грамадзяне належыць намесніку дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы Святлане Лапцевай. Не засталіся ўбаку і сябры згуртавання «Паходня», прыняўшыя ўдзел у падрыхтоўцы свята.**

**Ля сівых муроў на ўзбярэжжы Нёмана гучалі музыка, вершы. У разгар дзеяння з'явіўся Вялікі князь Літоўскі Вітаўт (яго ролю выконваў Віктар Руднік) са сваёй узброенай ваярскай дружынай. Князь звярнуўся да дзяцей з прывітальным словам, а пасля абышоў харугвы другакласнікаў, узяўшы ў іх клятву на вернасць бацькаўшчыне. Сабраных павіншаваў прадстаўнік гарадзенскіх скаўтаў. Скончылася імпрэза ўскладаннем кветак да Грунвальдскага мемарыяльнага каменя і фатаграфаваннем.**

**У. ХІЛЬМАНОВІЧ.**
г. Гародня.

## «ДОЙЛІДСТВА» МАЕ ПОСПЕХ

**Гродзенскі хор царкоўнай музыкі «Дойлідства» з поспехам выступіў на II Міжнародным фестывалі харавой музыкі ў Хэлме (Польшча), які ладзіўся з нагоды 600-годдзя гэтага горада, ваяводскага цэнтра. Удзельнікі «Дойлідства» прыехалі туды як старыя сябры хору «Хэйнал», аднаго з арганізатараў фестывалю. Спецыялісты адзначылі высокі прафесійны узровень выканання беларускіх харыстаў, ухвалілі ягонага саліста Аляксандра Урублеўскага. У праграме «Дойлідства» была беларуская ды руская царкоўная музыка, польскія песні.**

## ДРУГОЕ ДЫХАННЕ?

**Сённяшнія варункі змушаюць коласаўцаў і ў акадэмічных сценах круціцца порстка— у віры надыходзячага рынку. Першы вынік — гледачоў на спектаклях пабольшала, але кіраўніцтва тэатра «працэнтам» не здаволілася. Неўзабаве на сцэне з'явіліся «Інтрыгі тэатральнага сезона» — гала-канцэрт, які склалі ўрыўкі з лепшых спектакляў, якія ўжо сталіся з'яваю культурнага жыцця Віцебска, а таксама «тое, што пакуль ніхто не бачыў, але пабачыць». Самарэклама ўдалася як мае быць, і адміністрацыя мяркуе: а ці не паўтарыць свае «Інтрыгі...» яшчэ і яшчэ раз? Для самай найшырэйшай публікі...**

**Ю. СЦЯПАНАЎ.**

ВЫСТАВЫ

# У САМЫМ ЦЭНТРЫ СТАЛІЦЫ

Галерэя «Медэя» знаходзіцца на вельмі зручным месцы. У самым цэнтры сталіцы, у арандаваным памяшканні Дома афіцэраў. Галерэю ўтрымлівае фірма з такой жа назвай (офіс фірмы побач з экспазіцыйнай залай).

Выстава маладых мастакоў, што праходзіла з 15 па 30 кастрычніка, для галерэі (і фірмы) не першая. Тут ужо экспанаваліся работы досыць вядомых майстроў беларускага мастацтва і творцаў, чыё імя нешта значыць толькі ў вельмі шчыльным асяроддзі. Выставы ў «Медэі» вабяць неабыякавага гледача выразнымі экспазіцыямі, дзякуючы якім нават добра вядомыя творы ўспрымаюцца ў нечаканых ракурсах і спалучэннях. Тут трэба адзначыць працу мастацтвазнаўцы У. Пракапцова, які выступае ў ролі кансультанта фірмы і арганізатара выстаў. Нельга не прыгадаць і яшчэ адну акалічнасць: такой камернай, утульнай абстаноўкі няма ні ў адной з менскіх галерэй. Гэта тое, чаго так не хапае залам Палаца мастацтваў (я асабіста не памятаю, каб там атрымліваліся экспазіцыі камернага характару). Але вярнуся да выставы маладых мастакоў. Гэта выхаванцы нашай Акадэміі мастацтваў: Ю. Анушка, Р. Вашкевіч, Г. Веліжанін, А. Дранец, А. Радзівілка, К. Селіханаў, А. Юрчанка. Яны не звязаны стэрэатыпамі «сацыялістычнага рэалізму», разняволеныя ў фармальна-стылістычным сэнсе. Магчыма, некаторым з іх не стае канцэптуальнай акрэсленасці, ды гэта прыходзіць з вопытам — творчым і жыццёвым.

Асабіста мяне на гэтай выставе найбольш уразілі творы выхаванцаў кафедры скульптуры Беларускай Акадэміі мастацтваў Ю. Анушкі і А. Дранца. З гэтага не вынікае, што работы іншых горшыя ці менш цікавыя—я выказваю сваё меркаванне. Мне падалося, што якраз яны добра разумеюць, чаго хочуць, і галоўнае—ведаюць, як сваёй мэты дасягнуць. Яны маюць добрую школу, але не чапляюцца за выяўленчыя стэрэатыпы. Адзін з твораў гэтай экспазіцыі я дазволю сабе назваць шэдэўрам. Гэта кампазіцыя А. Дранца «Помнік ненароджанаму дзіцяці» (здымак мы змяшчаем). Помнік зроблены для касцёла ў Мёрах. Пасярэднікам паміж касцёлам і мастаком выступала Беларуская каталіцкая грамада. Гэты твор, магчыма, будзе для Алеся Дранца этапным. А свой аўтарытэт ён ужо засведчыў, калі перамог у адкрытым творчым спаборніцтве ў конкурсе на помнік Скарыну для Менска.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

А. ДРАНЕЦ. Помнік ненароджанаму дзіцяці для касцёла ў Мёрах.

К. СЕЛІХАНАЎ. «Падарожжа».

К. СЕЛІХАНАЎ «Сям'я».



Ю. АНУШКА. «Сляды».

# «Я не на тыдзень прызямляўся, хлопцы...»

Наш час перастаў здзіўляцца чаму б там ні было, акрамя, відаць, напамінку пра дружбу, няхай і колішнюю. А яна ж была, і ў многіх-многіх выпадках шчырая, непадробная. У адзнаку яе наладжваліся розныя сустрэчы, дэкады літаратур, праводзіліся разам юбілеі слаўных дзеячаў культуры братніх народаў, як яшчэ нядаўна казалі. Нават выраз быў: «Дружба народаў — дружба літаратур». Згадалася гэта не таму, што маю тугу па дэкадах, тыднях... Я на іх, як і большасць з майго пакалення, практычна не трапляў. Але бачыцца з сённяшняга дня, што справа, *калі праводзілася* без фармалізму, рабілася патрэбная, была скіравана на ўмацаванне той жа дружбы, якая цяпер абрастае крыўдамі, узаемнымі прэтэнзіямі, абліваецца крывёю. На тых сустрэчах наладжваліся асабістыя кантакты, мацаваліся знаёмствы. Яны не давалі затухаць перакладчыцкай дзейнасці. *Пазнанне ж народа* ідзе праз слова, умацаванне дружбы, тым больш суседства — таксама праз яго.

Сяброў ніколі не можа быць многа або лішне — іх заўсёды мала. Пра іх трэба помніць і дбаць.

Думаючы пра гэта, рабіў пераклады з двух украінскіх паэтаў, з творамі якіх і знаёмлю.

Уладзімір ПАЎЛАЎ.

Барыс СЦЕПАНЮК

## На грані часу

Увесь — чаканне. Сэрца роўна б'ецца.
Яшчэ здалёк не падступіў рубеж...
Яшчэ вясёла жаўранку пяецца —
Звініць званком сярэбраным —
не менш.

Яшчэ адвечным белы свет здаецца,
Ні гоману, ні гуку з нематы.
І толькі падкрадаецца да сэрца
У новы дзень струменьчык залаты.

...І стрэліла імгненне — час настаў!—
І вымыты блакіт святлом зайграў,
І сонца, як дзіця, працерла вочы.

І словы ўжо вышуквалі радкоў,
Гатовы думкі ўліцца ў плоць і кроў,
І сэрца ўжо не б'ецца, а грукоча!

## Зварот да поля

Адвечную таемнасць
Таяць *поле*,
Твой чарназём, азіміна твая.
Вусаты колас, што далоню коле,
Глядзіць з-пад веяў:
Што ты за зямля.

Як разгадаць
Працятаю скразною
Трывогай (зніклі раніцай, імгла!)
Прамень зямны,
Названы баразною,
Які пралёг з сяла і да сяла...

І чорна скіба
З гайвараннем чорным
На лініі адной — крыло ў крыло...
Прыроднае сплялося з рукатворным.
Палярны толькі
Дабрыня і зло.

## І была раніца, і была ноч

(22 чэрвеня 1941)

Дзеля чаго напісана малітва,
Хто быў з прарокаў аўтарам яе!
Святла і цемры
Не сціхае бітва,
Пажар вайны ёй тварy не псуе.

Яшчэ і тройчы пеўні не спявалі
І шчабятаннем не збудзіўся час,
А ўжо на Кіеў густа бомбы ўпалі
І ўстаў да бою бронзавы Тарас.

Яшчэ адно, зямля, ліхое ліха
Не абышло, не зрушыла наўзбоч...
У дымных пісягах (зусім не з міфу)
Быў ранак і... была бясконцая ноч.

Кашмарны сон падхоплівае рана.
Кідае многіх у халодны пот:
Занылі-запяклі ў салдата раны,
А ім, як і вайне, паўсотні год.

Калі ёсць мір,—хоць не такі, як трэба,—
Здавалася б, чаго яшчэ жадаць!!
Але сама не сыпле манна з неба,
*І кожнаму не шкодзіць нагадаць:*

Старую, нібы свет, хістае вежу,
А люду ў ёй, а колькі болю ў ёй!
Пануе ўлады імперскай бязмежжа,
А ўвесь цяжар на долі людской.

І новая ўжо створана малітва,
Хоць і няпроста існасць улавіць,
Калі адна і тая ж церпіць бітва,
А дай каманду — тут жа загарыць.

Быў ранак, ноч была...
Дню вечна быць!

22 чэрвеня 1991.

## Палігонія

Пясчынкі бураў, землятрус-агонь
Чаргуюцца адвечна шар за шарам.
А Хронас-Час няўпынна мчыць, як конь,
І сонцам косіць, нібы вокам карым...

Гісторыя, скрыжалі не паслаблі —
Масты ўслед за сабой не кожны паліць.
З'яві шчыты й мячы, з аралам шаблі,
Каб не была напаўзабытай памяць.

Гісторыя, нічога не мінай,
На ўласных вагах важ не для забавы.
Імя якое заслужыў мой край,—
Кажы,
У славе быў ён ці ў няславе.

А Хронас-Час няўпынна мчыць, як конь,
І сонцам косіць, нібы вокам карым.
Яму што ў свята, што ў работы звонь —
Складзе палетак, як пакосіць, шарам.

О людзі, дакапайцеся, чаму
Зямля без бою гэтак занядбана.
Якую мы перажылі чуму,
Калі і памяць, нібы тая рана.

Але й таго замала. Чарназём
У палігон ператварылі разам.
Гадае ён, куды мы, людзі, йдзём,
Адвечным плугам навастрыўшы розум.

Дажбог-рака... А ці яе віна —
Яна па волі бога пралілася,
Яе крыніцы поўнілі...— Яна
Злаякаснымі морамі ўзялася.

Сярод вясны пажоўк і сад, і лес,
Зямля скарэла перасохлым груддзем.
А гэта, кажуць, атам скрозь пралез,
Каб насміхнуцца над людскім
бязглуздзем.

Табе, мой краю, што яшчэ ўтварыць,
Якія прыпаднесці дывідэнды,
Па-змоўніцку ўжо думаюць цары,
Правадыры, генсекі, прэзідэнты.

## У дазоры

Сыну-салдату

Ты вартавым пастаўлены ў дазоры.
За кіламетраў пяць адсюль — Хатынь.
*Вячэрнія і ранішнія зоры*
Адмерваюць адвечны бег хвілін.

Прамчаў паблізу ля твайго дазору
Алюрам тры крыжы калісьці дзед
У тую акрываўленую пору,
Калі да дна перавярнуўся свет.

Ахвотна дзед бы расказаў навуку,
Пад капыты як слалася зямля,
Але пакінуць змог адно унуку
Салдацкі лёс ды ўласнае імя;

Ды яшчэ слоўка з дальняга паходу,
Што ў спадчыне цяпер, нібы дабро:
Калі нясе твая бабуся воду,—
Замест в і д р а гайдаецца в я д р о.

Прыганулася слоўка ненарокам.
Калі ішлі са стрэльбішча к сабе,
Дзяўчо каля крыніцы сінім вокам
З-пад веяў промнем стрэліла ў цябе!..

Яшчэ згадаў, магчыма, як бабуся,
Вядзерца прытуліўшы да грудзей,
Шаптала: «Не, павек не разлучуся!..»—
Сляза сама выкочвала з вачэй...

Над ямаю застыў твой дзед закуты,
А збоку, бы падсмажаны, як пёс,
Эсэсавец зайшоўся крыкам лютым;
Тады ж Хатынь палала да нябёс...

Каля яе, нібыта пры бяссмерці,
Прыняўшы як таварыша ў баі,
Прымаў ты лес пад колер гімнасцёркі
І як свае — *пчаліныя раі.*

Твой бацька, як і дзед, аднога крою.
І долі іншай сам ты не зазнаў:
Заранка ж тая ўранку, пад якою
Наш папярод
Сцяпан-казак стаяў,
А цяпер ты ў дазор салдацкі стаў.

Васіль ЮХІМОВІЧ

## На чыгунцы

З бетону пліты і кругі,
І груды сілікатнай цэглы...
Віхуры з тарфяной трухі
І краны, што па вёсках цэляць.

Бухмоцце лыка і карчы,
З лазы вялізныя карзіны...
Труб штабялі і цягачы,
Камбайны, колы, абразівы...

Старое з новым на пуцях —
*Усё, што працаю прыдбалі.*
Струменіць музыка жыцця,
А струны рэек, як цымбалы.

*Калісь тут не адзін Пятрусь*
Свае стаптаў сувоі лыка...
Далёка тая Беларусь.
Далёка век той зла і ліха.

## Беларусы

І ведаў, ды настаў здзіўленню час,
Калі дзялю хлеб-соль, браты, я з вамі:
Адкуль жа, беларусы, паміж вас
Чарнявыя, нібыта малдаваны!!

...У кошыку сланечніка здавён
Смуглявым семкам быць непрымусова.
Вянец яднання родаў і плямён
Ці не ў наследных продкаў храмасомах?

...Аж тры гады сярод агню змажы!..
Лес-абаронца, выспы ля выжарын...
Зямлянкі, пахаваныя ў лаўжы...
Край, тры гады распяты на крыжы,
Напоўнены пігментамі пажараў?

Сыны ішлі пажарышчамі ўсе,
Чарнелі ў бітвах і цямнелі ў скрусе,
А дочкі — у слязах, нібы ў расе...
Таму й смуглява-русы беларусы.

## Вячэра перакладчыкаў з беларускай мовы

Браў за сталом з рук ягадкі-мінчанкі
Бурат, як брат, і малдаванін браў
Талерку з беларускаю м а ч а н к а й,
Н а с т о й к у для прычасця з дзіўных
траў.

Мо і зубрам настойка добра п'ецца!
У бульбе з салам аж пыхцяць грыбы.
«Хай вам напеўна пішацца й -
жывецца!»—
Сяброў жаданне кропляю скрапі.

А як на хвілю выпадзе маўчанка,
Падасца зноў: у родным я сяле,
Дзе толькі ў святы пахкая мачанка
Духмяніла во гэтак на стале.

Я за ўспамін прыемны ўдзячны Мінску
І рады: на ў д а л у ю не зайшоў.
Не ў чарку зазіраў я і не ў міску —
У вочы аднадумцаў і сяброў.

Хоць зноў нас крылы панясуць
штомоцы
Дамоў к сабе ад вас і ад бяроз,
Я не на тыдзень прызямляўся, хлопцы,
Навекі сэрцам я да вас прырос.

Мінск—Хатынь—Кіеў, 1974.

# Кастрычнік і культура

(Пачатак на стар. 5.).

*бальшавікі прыйшлі да поўнай,* неабмежаванай улады, яны гэтае сваё разуменне культуры перш-наперш і пастараліся сілай, страхам і ўсёй моццу дзяржавы здзейсніць, *правесці* ў жыццё. Вядома, даючы скарочаны абрыс падыходу бальшавізму да культуры, хацелася б пазбегнуць спрашчэнняў, агульных абвінавачанняў і г.д. Прыкладам, можна пазначыць, што былі, асабліва калі сацыял-дэмакратычная плынь яшчэ не зышла на нішто, і меншавікі яшчэ адыгрывалі пэўную ролю ў рэвалюцыйным працэсе ў Расіі, пошукі сапраўдных шляхоў гармоніі паміж рэвалюцыяй і мастацкай культурай. Так, і А. В. Луначарскі і М. Горкі шукалі апоры ў традыцыях рускай духоўнасці і таму былі заклеймаваны «праверныімі» носьбітамі бальшавіцкай ідэі за свае спробы з «богабудаўніцтвам» і «богашукальніцтвам». Але ўсё гэта было да Кастрычніка, да атрымання неабмежаванай, бясконцай улады.

А пасля... Пасля таго, як Саветы сцвердзіліся як новы тып дзяржавы, менавіта ён, гаворачы словамі У. І. Леніна, і «стварае апарат, які можа перавыхаваць масы». І культура павінна была стаць — і стала! — заложніцай гэтага перавыхавання. І хай былі частковыя адступленні, «адлігі», хай мы ведаем, што асабіста Ленін (разам з Луначарскім) выступаў, часам, супраць дактрыны пралеткульту, якая прапанавала зусім дашчэнту знішчыць «старую культуру», як буржуазную з'яву, галоўная тэндэнцыя ацэнкі каштоўнасці культуры з пункту гледжання «пралетарскай ідэалогіі» заўсёды заставалася нязменнай і правадзейнай. І паколькі шчыліна дэмакратыі па меры пераходу да «развітога сацыялізму» рабілася ўсё вузейшай, заканамерна былі ўбіты ў свядомасць і народа і асобнага індывідууму ленінскія словы з «Дзіцячай хваробы» левізны «ў камунізме»: «Ні адно важнае палітычнае альбо арганізацыйнае пытанне не вырашаецца ніводнай дзяржаўнай установай у нашай рэспубліцы без кіруючых указанняў Цэка партыі».

Вось гэты шлях: спярша — партыя, якая авалодала вучэннем адзіна правільным на свеце і абавязак якой — любымі спосабамі *(хай праз расстрэлы)* «перавыхаваць цёмную масу народа» згодна з гэтым вучэннем. Потым — «Цэка», як збор мудрацоў, трымаючых і вызначаючых — *што там* культуру — жыццё і лёс кожнага на гэтай зямлі. (Падумаць толькі: дзесяць год таму зусім нармальным у нас здаваліся раздзелы ў бібліятэках, *кнігах,* падручніках, хрэстаматыях: «Партыйнае кіраўніцтва культурай»!). І ў рэшце рэшт — асобны чалавек, правадыр, «бацька» ўсіх народаў, які з боскай сілай можа вызначыць гэты лёс.

Так выпускаўся апошні кісларод з паветра, у якім можа жыць і квітнець культура. Таму што культура — люстэрка душы чалавека і народа. Яна не можа гарманічна развівацца ў атмасферы гвалту, прымусу і фанатызму. Вядома, згодна з прынцыпамі «загадкавай рускай душы», дзе часта ўсё робіцца «ад адваротнага», часцінкі сапраўднай культуры з'яўляліся і ў страшэнныя часы росквіту «сацрэалізму». Але гэта былі й сапраўды — часцінкі...

...Перагортваю я свой даўні аспіранцкі артыкул «У. І. Ленін і крытэрыі мастацкай крытыкі». Як жа шмат у ім наіўнага, недасведчанага! Але і ёсць сціплыя спробы і пад «маркай» марксізму ўсё ж такі паказаць, што «сацыялагічны крытэрый» не працуе ў мастацтве без крытэрыю эстэтычнага. І на тым дзякуй! Але вось сведчанне Рамэна Ралана, якім так ганарыўся тады аўтар артыкула, сведчанне аб тым, што Леніну знаёма «мара мастацтва; ён хоча, каб гэтая мара была крыніцай сілы і падтрымкай у барацьбе, каб яна нязменна злівалася з дзеяннем»...

Амаль чвэрць стагоддзя павінна было прайсці, каб аўтар зразумеў, што не кожнае дзеянне можа легчы ў скарбонку культуры. Што дзеянне і, наогул, энтузіясцкая дзейнасць «без розуму», якую нам яскрава прадэманстраваў бальшавізм, можа быць і знішчальнай і разбуральнай. Калі яна пазбаўлена душы і любові, калі яна антыгуманістычная, калі яна ажыццяўляецца пры дапамозе сілы і гвалту. І культура, гэты твор свабоднай чалавечай духоўнасці, нікне і занепадае ва ўмовах бесперапыннага, бязлітаснага, бясконцага «дзеяння». Як у гэтым маглі перакanaцца ўсе людзі добрай волі,назіраючы за жудасным жыццём культуры ў клетцы, абазначанай «савецкай рэчаіснасцю», — за гістарычны шлях амаль на працягу трох чвэртак стагоддзя на шостай частцы абшару планеты Зямля.

# Васіль ХОМЧАНКА



4 лістапада 1992 года на 74-м годзе жыцця раптоўна памёр вядомы беларускі пісьменнік Васіль Хомчанка.

Нарадзіўся Васіль Фёдаравіч Хомчанка 12 студзеня 1919 года ў вёсцы Канічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. У 1935 годзе пасля заканчэння сямігодкі паступіў на рабфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У 1937 годзе быў рэпрэсіраваны, працаваў на Далёкім Усходзе на будаўніцтве чыгункі і на лесанарыхтоўках. У час Вялікай Айчыннай вайны быў камандзірам мінамётнага ўзвода, ваяваў за вызваленне роднае Бацькаўшчыны. Пасля разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў служыў у Савецкай Арміі. У 1951 годзе скончыў Ваенна-юрыдычную Акадэмію ў Маскве. З 1972 года загадваў рэдакцыяй прозы выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені і шматлікімі медалямі.

Першае апавяданне Васіль Хомчанка надрукаваў у 1954 годзе. Пачынаў свой шлях у літаратуры на рускай мове. У горадзе Уладзіміры выдаў кнігі апавяданняў для дзяцей «Куда исчез гриб», «Жаворонок» і «Рассказы». На радзіме з-пад пяра пісьменніка ў розныя гады выходзяць для юных чытачоў кнігі «Наша вячэра», «Рукавіцы генерала Даватара», «Суседзі», «Аднойчы майскім днём», «Верны рыцар», «Сустрэча з цудам», «Я ўжо вялікі» і шэраг іншых. Ён аўтар двухтомніка выбраных твораў, аповесці «Чырвоныя хвалі» і рамана «Вяртанне ў агонь», а таксама кніг «Бацькава шабля», «Пры апазнанні — затрымаць», «Чэкістам стала вядома», «Цярам-рукавіца», «Стрэл у акно», «Цар—зэк Сямён Івашкін».

Цёплае, пранікнёнае мастацкае слова Васіля Хомчанкі заўсёды знаходзіла ўдзячны водгук у душах чытачоў, яго кнігі шырока вядомы ў нашай рэспубліцы і за яе межамі.

Памяць пра пісьменніка, няўрымслівага чалавека Васіля Фёдаравіча Хомчанкі назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто ведаў яго.

**М. І. ДЗЯМЧУК, Н. С. ГІЛЕВІЧ, А. І. БУТЭВІЧ, Я. К. ВАЙТОВІЧ, В. А. ГАЙСЕНАК, Р. І. БАРАДУЛІН, П. К. КРАЎЧАНКА, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, П. Е. ПАНЧАНКА, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), І. П. ШАМЯКІН, В. У. АДАМЧЫК, С. А. АНДРАЮК, В. У. БЛАКІТ (Болтач), А. І. ВЯРЦІНСКІ, М. С. ГІЛЬ (Гілевіч), С. І. ГРАХОЎСКІ, В. М. ГРЫШАНОВІЧ, Г. В. ДАЛІДОВІЧ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, В. А. КАВАЛЕНКА, У. А. КАЛЕСНІК, А. П. КУДРАВЕЦ, А. А. КАРАТАЙ (Максім Лужанін), Ц. В. КРЫСЬКО (Васіль Вітка), Л. К. ЛЕВАНОВІЧ, У. С. ЛІПСКІ, В. А. ЛУКША, А. І. МАЛЬДЗІС, П. М. МАКАЛЬ, І. Я. НАВУМЕНКА, У. А. ПАЎЛАЎ, Н. Е. ПАШКЕВІЧ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, І. М. ПТАШНІКАЎ, П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Б. І. САЧАНКА, В. П. СУПРУНЧУК, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ, А. А. ШАБАЛІН.**

**Калектыў выдавецтва «Мастацкая літаратура» глыбока смуткуе з прычыны смерці былога загадчыка рэдакцыі прозы, пісьменніка Васіля Фёдаравіча ХОМЧАНКІ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны і працы Васіля ХОМЧАНКІ і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Васіль ХОМЧАНКА**

# Тэрарыстка з Рэчыцы

МЯНЕ ДАЎНО ЗАЙМАЕ асоба Фані Каплан. Пра яе я ў свой час напісаў дакументальны нарыс, які быў змешчаны ў розных выданнях і на некалькіх мовах. Але тады я не мог, вядома, выйсці за рамкі афіцыйна-камуністычных ацэнак падзей, у якіх Каплан удзельнічала. Яе малявалі адной чорнай фарбай — вораг рэвалюцыі, тэрарыстка, якая па заданні правых эсэраў страляла ў Леніна. Цяпер, калі мы вызваліліся ад цяжкару палітычнай цэнзуры, можна выказаць свае думкі, сумненні, даць свае ацэнкі. Вывучыўшы следчыя справы Каплан, сустрэўшыся з многімі сведкамі тых падзей, я і паспрабую гэта зрабіць.

Хто ж яна, гэта Каплан? Фані Яфімаўна Каплан нарадзілася ў 1886 годзе ў Рэчыцы Магілёўскай губерні ў сям'і яўрэйскага настаўніка. З Рэчыцы бацькі яе, 4 браты і 3 сястры пераехалі спачатку ў Валынскую губерню, а ў 1911 годзе — у Амерыку.

У рэвалюцыйную барацьбу Фані Каплан уключылася, калі ёй не было і дваццаці гадоў, стаўшы членам Кіеўскай рэвалюцыйнай анархісцкай арганізацыі. У снежні 1906 года яе судзіў ваенна-палявы суд. У гэтай справе пра яе пішацца: яўрэйка, 20-ці гадоў, дзяўчына без пэўных заняткаў, асабістай маёмасці не мае, уласных грошай 1 рубель.

Вось у арыгінале прыгавор:

**«Военно-полевой суд от войск Киевского гарнизона в составе: председателя суда — подполковника Немилова, членов — полковника Липинского, подполковника Пацевича, капитана Богатырева и капитана Тенькова, в судебном заседании 30 декабря 1906 года рассмотрел дело о мещанке, именующейся Фейгой (Фани) Хаимовной (Ефимовной) Каплан, преданной суду начальником войск Киевского гарнизона по обвинении в изготовлении, хранении, приобретении и ношении взрывчатых веществ с противной государственной безопасности и общественному спокойствию целью, Постановил: Подсудимую, именующейся Фейгой Каплан, за доставление и хранение у себя с противной государственной безопасности и общественному спокойствию целью взрывчатых веществ по лишении всех прав состояния сослать в каторжные работы без срока».**

Выбуховыя рэчывы — бомба, якую адабралі ў Каплан пры затрыманні на вуліцы.

З тлумачэнняў падсуднай на гэтым судзе можна меркаваць, што яе ўцягнула ў рэвалюцыю не ідэя замены дзяржаўнага ладу, а рэвалюцыйная рамантыка. Вось адзін з яе адказаў на судзе: «Я гатова сябе ахвяраваць за волю і шчасце народа». Пра свае асабістыя планы Каплан сказала: «Я вырашыла прысвяціць сябе цалкам рэвалюцыі. Сям'я, дзеці — не для мяне».

Да сакавіка семнаццатага Фані Каплан адбывала катаргу ў Забайкаллі. Пры этапіраванні яе туды быў выдадзены начальніку этапа дакумент, у якім указана, што асуджаная можа ісці пешшу ў наручніках і што патрабуе асабліва пільнага нагляду, бо схільная да ўцёкаў.

Катарга ёсць катарга. Каплан цярпліва яе пераносіла. Ніводнай заявы аб памілаванні ці змякчэнні кары не напісала. Хварэла, некалькі разоў змяшчалася ў бальніцу. Слепла на істэрычнай глебе — так указана ў заключэнні ўрачоў. Ёй дазволілі для чытання мець лупу, якую прыслалі з Чыкага яе браты.

Царскія ўлады адносіліся да палітычных зняволеных куды лепш, чым улады ГУЛАГа да так званых ворагаў народа. Каплан была вызвалена ад работы, тэрмін катаргі ёй скарацілі да дваццаці гадоў. Выпусцілі яе на свабоду па амністыі на аснове тэлеграмы пракурора Чыцінскага акругова суда пасля лютаўскай рэвалюцыі. Такім чынам, Каплан на катарзе правяла больш за дзесяць гадоў.

Калі да катаргі Каплан знаходзілася пад уплывам анархістаў, то пасля знаёмства з катаржанкамі Марыяй Спірыдонавай, Ганнай Пігіт і іншымі погляды яе змяніліся, яна зблізілася з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі. У васемнаццатым Каплан ужо цалкам прыняла ідэі правых эсэраў.

ПАСЛЯ СІБІРЫ яна з месяц жыла ў Маскве ў былой катаржанкі Г. Пігіт, потым пераехала ў Крым, дзе спачатку лячылася ў санаторыі для палітыкатаржан, а пасля працавала ў Сімферопалі загадчыцай курсаў па падрыхтоўцы работнікаў валасных земстваў. Кастрычніцкі бальшавіцкі пераварот прыняла варожа. Як і ўсе сацыялісты, акрамя бальшавікоў, Каплан была за Устаноўчы сход, супраць міру з Германіяй. На мітынгах, сходах, дзе ёй даводзілася выступаць, яна рэзка крытыкавала бальшавікоў, называла Леніна агентам Германіі. Як успаміналіся сведкі тых мітынгаў, Каплан, спасылаючыся на дакументы, даказвала, што Ленін даў згоду абараняць інтарэсы Германіі яшчэ на пачатку вайны, калі быў арыштаваны ў Пароніне аўстрыйскімі ўладамі, пасля чаго пачаў дэклараваць паражэнскія лозунгі, накіраваныя на вывад Расіі з вайны.

Вядомы такі эпізод з жыцця Каплан у Крыме. Пра яго ў нашым друку дагэтуль не паведамлялася. У санаторый для паліткатаржан пазнаёмілася з малодшым братам Леніна Дзмітрыем Ульянавым, які там адпачываў. Ён дапамог Каплан з уладкаваннем на працу, з паездкай у Маскву. Па яго хадайніцтве мясцовымі ўладамі ёй была аказана і матэрыяльная дапамога.

У лютым васемнаццатага Каплан пераехала ў Маскву, аднак у работу партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР) актыўна не ўключалася.

Партыя правых эсэраў хоць і не была бальшавікамі афіцыйна забаронена, але напалову разгромлена. Многія яе члены былі арыштаваны, газеты эсэраў закрываліся, канфіскоўваліся тыражы, аднак партыя жыла, мела значны ўплыў у народзе. ПСР выступала супраць бальшавіцкага тэрору і супраць Леніна, як яна лічыла — душыцеля дэмакратыі і арганізатара гэтага тэрору.

Тое, што іменна Ленін і быў яго галоўным арганізатарам, не было тады нейкім сакрэтам, ленінскія загады, тэлеграмы аб захопе і расстрэлах заложнікаў публікаваліся ў адкрытым друку.

«Масавіднасць тэрору» паспяхова выконвалася ўсімі «чрезвычайками». Тысячы людзей каналі ў чэкісцкіх засценках. «Жалезны Фелікс» у першы ж дзень заступлення на пасаду старшыні ВЧК, падзякаваўшы за давер, заявіў: «Мы павінны зараз прымяніць усе меры тэрору, аддаць яму ўсе сілы. Не думайце, што я шукаю формы рэвалюцыйнай юстыцыі, юстыцыя нам не да твару! У нас не павінна быць доўгіх размоў! І я патрабую аднаго — арганізацыі рэвалюцыйнай расправы!»

Правазнаўца па адукацыі, Ленін сустрэў апладысментамі заяву свайго паплечніка. Дзяржынскі быў так захоплены сваёй работай, што і спаў у сваім кабінеце на Лубянцы, куды звозілі «ворагаў рэвалюцыі» і дзе ў акрываўленых падвалах іх расстрэльвалі.

**Гэтак жа бесчалавечна дзейнічалі і чэкісты на месцах. Асабліва вылучалася Петраградская ЧК на чале з Урыцкім. Імя Урыцкага наводзіла ў Петраградзе жах. Карл Каўцкі, да якога даходзілі звесткі аб тэроры, назваў Урыцкага «вяршыняй мярзотнасці».**

**Урыцкага застрэліў дваццацігадовы юнак, прозвішча, біяграфічныя звесткі якога многія гады не называліся, паведамлялася толькі, што ўчыніў забойства контррэвалюцыянер. На самай справе гэта быў Леанід Канегісер, таленавіты паэт, блізкі сябар Сяргея Ясеніна. Пісьменнік Марк Алданаў, які добра ведаў Леаніда і яго бацьку, вядомага інжынера і вучонага, характарызуе хлопца як выключна адоранага чалавека і паэта. Вершы Канегісера друкаваліся ў «Северных записках» і «Русской мысли».**

**Аб дружбе Канегісера і Ясеніна вельмі цёпла пісала Марыя Цвятаева: «Лёня ездзіў да Ясеніна ў вёску, Ясенін у Пецярбурзе ад Лёні не выходзіў... Лёня, Ясенін — неразрыўныя, неразліўныя сябры. У іх асобе, у ашаламляльна розных тварах сышліся, зліліся дзве расы, два класы, два светы. Сышліся — паэты... Так і бачу іх дзве ссунутыя галовы ў прыгожым хлапчукоўскім абдымку... Ясенінскія вочы-васількі, Лёневы карыя міндаліны».**

**І вось гэты юнак з паэтычнай душой вырашыў забіць галоўнага чэкіста Петраграда. Гэтаму папярэднічаў арышт. І некалькіх ягоных сяброў, у тым ліку, Перальцвейга, якіх неўзабаве расстралялі згодна з пастановай, падпісанай Урыцкім.. Пасля бяссоннай ночы раніцай 30 жніўня 1918 года Леанід Канегісер развітаўся з бацькамі, сеў на веласіпед і паехаў да Петраградскага ЧК. Зайшоўшы ў дом, стаў чакаць Урыцкага. Фуражку сваю чамусьці паклаў на падаконнік. Калі Урыцкі прыехаў і падышоў да ліфта, Канегісер стрэліў яму ў галаву. З рэвальверам у руцэ, без фуражкі, забытай на падаконніку, выбег на вуліцу, сеў на веласіпед і паехаў, трымаючы зброю ў руцэ. На вуліцы яго затрымалі. Для следства і расправы адразу ж з Масквы ў Петраград выехаў Дзяржынскі. «Жалезны Фелікс» аддаў загад расстраляць 512 арыштаваных, што знаходзіліся ў той час у падвалах Петраградскага ЧК. Прозвішчы расстраляных былі надрукаваны ў газетах. 513-ім быў Канегісер.**

У канцы таго ж дня 30 жніўня 1918 года прагучалі стрэлы і ў Маскве. У двары завода Міхельсона быў зроблены замах на Леніна. Падазроную жанчыну затрымалі. Пакуль Дзяржынскі ўчыняў расправу за Урыцкага ў Петраградзе, у Маскве ўзяліся вяршыць суд над затрыманай жанчынай. Допыт яе ішоў адразу пасля затрымання вечарам, ноччу, потым назаўтра. Допытвалі паасобку намеснік Дзяржынскага Петэрс, старшыня Маскоўскага рэўтрыбунала Дзьяканаў, чэкісты Кінгісеп, Скрыпнік, нарком юстыцыі Курскі. На ўсіх гэтых допытах жанчына прызналася, што страляла ў Леніна яна і назвала сябе Фаняй Яфімаўнай Каплан.

ЧЫТАЮ СЛЕДЧУЮ справу Каплан і не магу, як юрыст, адмовіцца ад думкі, што прызнанні яе зроблены пад моцным уціскам, або наогул катаржанка адразу ж прызналася ў тым, што страляла ў Леніна; зброі пры затрыманні таксама не знайшлі.

Могуць спытаць, як Каплан трапіла на тэрыторыю завода, дзе праходзіў мітынг. Вельмі проста — на прахадной завода вісела аб'ява, у якой запрашаліся на мітынг усе жадачыя паслухаць правадыра. Каплан, як і многія з вуліцы, там і апынулася.

Што ж адбылося на тым заводзе? У вядомым кінафільме «Ленін у васемнаццатым годзе» ёсць сцэна выступлення Леніна на заводзе Міхельсона. Хто бачыў фільм, помніць, з якой радасцю, захапленнем рабочыя слухаюць правадыра, апладзіруюць яму, крычаць «ура». І такі эпізод — натоўп іравецца да затрымання тэрарысткі, каб разарваць яе на кавалкі.

Было ж усё не так.

Я азнаёміўся з многімі дакументамі той пары, гутарыў з людзьмі, што прысутнічалі на тым мітынгу. Вымалёўвалася зусім іншая карціна. Змучаныя голадам, непасільнай працай, грамадзянскай вайной, людзі слухалі прамову правадыра з пахмурнымі, недаверлівымі тварамі. Кідалі рэплікі, задавалі пытанні, на якія Ленін або не звяртаў увагі, або рабіў выгляд, што не чуе. Выступіўшы, ён адразу ж паспяшаўся да аўтамабіля. Многія кінуліся яму ўслед не таму, каб яшчэ раз палюбавацца правадыром, а выказаць яму свае скаргі, нешта спытаць. Каля самага аўтамабіля яго спынілі жанчыны Папова, Маскоўкіна і іншыя са скаргамі на заградатрады: тыя адбіраюць прадукты ў людзей. Ленін слухаў іх моўчкі, нічога не абяцаў і яўна быў незадаволены затрымкай. У гэты момант і прагучалі стрэлы. Паранены Ленін упаў. Узнікла паніка, людзі пачалі разбягацца. Хто страляў, ніхто не заўважыў.

Вось што паказаў следству памочнік камісара 5-й Маскоўскай пяхотнай дывізіі С. Батулін, які таксама быў на тым мітынгу. «Я, падышоўшы да аўтамабіля, пачуў тры рэзкія сухія гукі, якія я прыняў за маторныя гукі. Убачыў натоўп народа, які разбягаўся, і Леніна, які ляжаў тварам да зямлі. Я зразумеў, што на жыццё Леніна быў замах. Чалавека, што страляў, я не бачыў. Я не разгубіўся і закрычаў: «Трымайце забойцу таварыша Леніна!» З гэтым крыкам я выбег са двара на Серпухоўку, па якой уцякалі ў розныя напрамкі перапалоханыя стрэламі людзі. Сваім крыкам «Трымайце» я хацеў спыніць тых, хто бачыў, як стралялі ў таварыша Леніна. Дабегшы да так званай стрэлкі на Серпухоўцы, я ўбачыў дзвюх дзяўчат, якія па маім глыбокім пераканanні беглі таму, што ззаду іх бег я і іншыя людзі. Я іх не стаў больш даганяць. У гэты час ззаду сябе, каля дрэва, я ўбачыў з партфелем і парасонам у руках жанчыну, якая сваімі дзіўнымі паводзінамі спыніла маю ўвагу. Яна мела выгляд запалоханага чалавека, які ратаваўся ад праследавання. Я спытаў гэту жанчыну, чаму яна сюды трапіла? «А навошта вам гэта?» — адказала жанчына. Тады я абшукаў яе кішэні, узяў яе партфель і парасон і прапанаваў ісці са мной. У дарозе я яе спытаў, «чуя в ней лицо, покушавшееся на тов. Ленина» (так у арыгінале), чаму яна страляла ў Леніна, на што яна адказала, а для чаго вам гэта ведаць? Мяне гэта канчаткова пераканала, што замах на тав. Леніна зрабіла яна. У гэты час да мяне падышлі яшчэ 3—4 чалавекі, якія памаглі мне суправаджаць яе па Серпухоўцы. Нехта з натоўпу пазнаў у гэтай жанчыне чалавека, які страляў у тав. Леніна. Пасля гэтага я яшчэ раз спытаў: «Вы стралялі ў тав. Леніна?», на што яна сцвярджальна адказала, ад-

# ГЭТАЙ ЗЯМЛІ НЕ ХАПАЕ СВЯТА

## Наваградак. Нататкі менскага госця

НА НАВАГРАДАК падае дождж, не спыняецца ні на хвіліну, і не хочацца даваць веры, што некалькі дзён таму тут усё было інакш. Цешылі вока сакавітыя фарбы народных строяў і неспякотнае вераснёўскае сонца. Усе рухаліся, спявалі, таньчылі, гаманілі — было свята. Цяпер жа раз'ехаліся госці, наваградчане вярнуліся да сваіх будзённых спраў. І мне здаецца, мала хто зразумеў, якая гэта была незвычайная падзея і для наваградчан, і для гасцей, і для Беларусі.

Але спачатку аб тым, як усё адбылося. Адкрываліся адразу два музеі і адзін помнік. З боку мясцовых уладаў і Міністэрства культуры ўсё было зроблена як след. Задзейнічалі лепшыя сілы. Гэта адчулася ўжо ў пятніцу 11 верасня, калі ў якасці вядучага вячэрняй імпрэзы да мікрафона выйшла сама Зінаіда Бандарэнка. У гэты ж дзень прайшла прадстаўнічая навукова-краязнаўчая канферэнцыя. Прысутныя пачулі эмацыйны аповяд Міколы Ермаловіча аб Міндоўгу і Навагрудку, выступ яго маладога апанента гісторыка Вячаслава Насевіча, грунтоўныя даклады Вячаслава Чамярыцкага, Міхася Спірыдонава і шмат каго яшчэ. Пасля абеду адбылося ўрачыстае адкрыццё гісторыка-краязнаўчага музея. Яно стала сапраўдным зорным часам, кульмінацыяй жыцця старэйшага яго супрацоўніка Ніны Пятроўны Шурак, якая ўклала ў музей сваю душу і ўспрымала яго адкрыццё як свята глыбока асабістае. І людзі гэта зразумелі і прынеслі чалавеку шчырае віншаванне і падзяку. Упрыгожыў вечар гарадзенскі фальклорны ансамбль «Гуды», які адразу захапіў публіку сваёй прафесійнасцю і адначасова беражлівымі і паважлівымі адносінамі да народных спеваў і строяў.

Найвышэйшы момант урачыстасці прыйшоўся на наступны дзень — суботу 12 верасня, калі адкрывалі помнік, а затым і музей Міцкевіча. Прыбылі міністр культуры, старшыня парламенцкай камісіі па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны, госці з суседніх краін. Ля помніка паставілі раяль і размясцілі аркестр, было шмат фота- і тэлеаператараў. Усё ўрачыста, узнёсла і зладжана. Пранікнёна гаварыў Ніл Гілевіч, выступалі акцёры, пісьменнікі, аўтар помніка Валяр'ян Янушкевіч. Непадалёк ад мяне прысеў на мармуровую агароджу высокі, велічнага выгляду стары. «То Радзівіл!»— шапнуў знаёмы краязнавец.

Пра помнік даводзілася да і пасля свята чуць розныя меркаванні. Вядома ж, у кожнага свой густ. Больш хвалілі, але гаварылі, што і месца няўдала выбрана, і з фонам зліваецца, і камень як пастамент не падыходзіць, і жэст бронзавага Міцкевіча не рамантычны, а барочны. Аднак на правах невыпадковага госця, які меў час дэталёва агледзець твор і неаднойчы пасядзець каля яго, рызыкну засведчыць, што Наваградак можна павіншаваць з гэтым помнікам, і месца выбрана ўдала — непадалёк ад замка і ўбаку ад гарадской мітусні. Сюды можна прыходзіць і без перашкод заставацца сам-насам з Паэтам.

А ўрачыстасці доўжыліся каля варот музея, якім стала адноўленая сядзіба Міцкевічаў. Зрываўся ад хвалявання голас дырэктаркі Ліліі Уладзіміраўны Усэнкі, выступаў міністр культуры, а нехта з палякаў, скарыстаўшы момант, умудрыўся прачытаць цэлы даклад. Абодва музеі, і гістарычны і Міцкевіча, ад ганку да гарышча былі запоўнены наведвальнікамі, на старадаўняй плошчы адбывалася нешта накшталт кірмашу, на сцэне ля Дома культуры спявалі і таньчылі — ішло свята. У парку цешылі дзяцей дынамічны вясёлы тэатр лялек з Гародні і менш дынамічны ды больш сур'ёзны лялечны тэатр з Віцебска. Сапраўдным фіналам стаў гала-канцэрт на Замкавай гары, які доўжыўся ад 8 да 10 гадзін вечара. Уражвала адмыслова змайстраваная сцэна, акружаная гарой гука- і светаапаратуры. Міністэрства культуры вяло справу ўсур'ёз і сабрала адпаведных выканаўцаў: дзяржаўны канцэртны аркестр, ансамблі народнай музыкі «Свята» і «Купалінка», «Верасы», саліравалі Ліка Ялінская і Андрэй Хлястоў. Гледачы запоўнілі не толькі агромністую замкавую пляцоўку, але і старажытныя валы, насыпаныя па яе перыметры. Трэба заўважыць, што наваградчане літаральна разрываліся паміж святам і бульбай — была субота і цэлы дзень сонца ў самы бульбяны сезон. Канцэрт удаўся, і людзі не шкадавалі, што прыйшлі.

Ужо з'явіліся першыя водгукі ў прэсе. Яны досыць сціплыя, і гэта яшчэ адзін знак неразумення значнасці наваградскіх святаў. Гуляючы ў гэтыя дні па горадзе, усюды сустракаў знаёмыя твары менчукоў, прыехаўшых сюды за тым жа. Мне шкада менскіх і іншых гасцей, якія ўсе паехалі ў той жа дзень, у суботу, многія яшчэ да пачатку канцэрта. Не паспеўшы аддаліцца як след ад мегаполіса, ачуняць ад яго смогавых абдымкаў, яны зноў рынуліся назад да яго ў свае будзённыя клопаты. Я ж застаўся і радуюся. Застаўся таму, што ведаю — апынуўшыся тут, патрэбна зрабіць шмат спраў, без якіх прыезд у Наваградак губляе сэнс. Ды справы гэтыя нельга рабіць сярод людскога тлуму. Па-першае, трэба выйсці на вал Замкавай гары аднаму або ў кампаніі прыемных людзей, пажадана пад вечар і пасядзець тварам на поўнач, у той бок, дзе адразу пад гарой за паркам пачынаюцца неабсяжныя палі. Замкавая гара — найвышэйшая кропка Наваградскага ўзвышша і з яе добра відно, як уніз і ўдалеч адно за другім збягаюць бясконцыя пагоркі і далінкі. Кажучы сухавата-выразнай мовай гісторыка, тут мае месца захаванне прасторавай сувязі гістарычнага цэнтра з навакольным ландшафтам. Пасядзеўшы на вале Замкавай гары тварам на поўнач, можна адчуць гэту сувязь. Па-другое, каб яшчэ паўней памянёную сувязь адчуць і зразумець, трэба прайсціся па дарозе на Літоўку і паназіраць, як вырастае Замкавая гара з велічнымі вежамі па меры аддалення ад горада. Па-трэцяе, патрэбна з'ездзіць на возера Свіцязь ды пахадзіць па яго беразе, паглядзецца ў яго люстэрка разам з векавымі дубамі, як гэта калісь рабіў Міцкевіч. Ды яшчэ шмат, чаго трэба зрабіць. Схадзіць у госці да Якава Уладзіміравіча Пратасевіча, які вынайшоў сваю тэорыю наконт прыроднага беларускага патрыятызму і, больш паўвека таму скончыўшы наваградскую беларускую гімназію, з лёгкасцю сыпле лацінскімі тэрмінамі. Варта наведаць фарны касцёл, а яшчэ, папрасіўшы дазволу ў рэстаўратараў, залезці ў самую макаўку — вежу даміканскага касцёла і глянуць на Наваградак з птушынага палёту. Усё гэта патрэбна рабіць без паспешлівасці. Тады сапраўды маеш шанц далучыцца да патаемнай сілы гэтай зямлі і адчуць яе абранасць. Я самым сур'ёзным чынам прыйшоў да пераканання, што гэтая зямля абрана Усявышнім. Наваградак вылучаецца нават сваім кліматам. Сапраўды, на кліматычных картах горад і ваколіцу пакрывае цёмна-зялёная пляма, якая выразна выдзяляецца на светла-зялёным фоне суседніх раёнаў. Тут урадлівыя глебы, і нездарма менавіта ў гэтым месцы яшчэ ў канцы X ст. нашы продкі заснавалі паселішча, якому быў наканаваны незвычайны лёс. Абранасць і надалей лунала над Наваградкам. Менавіта гэтаму гораду выпала стаць ля вытокаў беларускай і летувіскай дзяржаўнасці, закласці пачаткі гістарычнай еднасці двух народаў. Горад заўжды заставаўся у шэрагу буйнейшых местаў беларуска-летувіскага гаспадарства. А колькі слаўных імёнаў дала свету гэтая зямля! Услед за Адамам Міцкевічам назавём Тамаша Зана, Ігната Дамейку, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлю, Барыса Кіта і многіх, многіх іншых.

Зараз, з пачаткам адраджэння беларускай дзяржаўнасці, старажытная сталіца зноў можа выявіць свету свой непаўторны твар. Тая акалічнасць, што пры Саветах Наваградак не падымаўся вышэй раённага цэнтра, таксама праяўленне абранасці. Здавалася б, недахопы: аддаленасць ад буйных транспартных магістраляў, адсутнасць буйных прадпрыемстваў, у сапраўднасці выяўляюцца як вартасці і выгоды. Гэтая аддаленасць і адсутнасць азначала амаль поўную адсутнасць міграцыі, з дапамогай якой будавалася новая супольнасць — савецкі народ, і што бокам зараз вылазіць малдаванам, эстонцам і шмат каму яшчэ. У Навагрудку жыве мясцовы люд і ён заставаўся адным з нямногіх (я ведаю яшчэ толькі Слонім) беларускіх гарадоў, дзе ніколі, нават у самыя «інтэрнацыянальныя» часы, нікога на яго вуліцах, у крамах і ўстановах не здзіўляла і не шакіравала беларуская мова. Няма буйных прадпрыемстваў — значыць, няма буйнога будаўніцтва і шырокапамернага «упорядочения» гістарычнага цэнтра, што на справе азначала ліквідацыю апошняга. Відавочна, па шчаслівай выпадковасці (ці і тут праявілася абранасць?) сучасная забудова размясцілася ў асноўным па схілах пагоркаў і не загрувашчвае, не «душыць» гістарычны цэнтр.

Непаўторны горадабудаўнічы воблік, слаўная гісторыя, імя Адама Міцкевіча, адсутнасць буйных прадпрыемстваў — усё гэта стварае рэальныя падставы ператварэння Наваградка ў буйнейшы турыстычны цэнтр краіны. Замкавая гара — ідэальная пляцоўка для мнагалюдных фестываляў. Архітэктары-рэстаўратары з творчай майстэрні С. Г. Багласава ў Менску ўжо працуюць над канцэпцыяй рэстаўрацыі гістарычнага ядра горада. Акрамя таго, адзін з наваградчан, які займае пасаду саветніка прэзідэнта ЗША па праблемах астранаўтыкі — гаворка ідзе пра прафесара астранаўтыкі Барыса Кіта,— хоча зрабіць родны Наваградак універсітэцкім горадам. Накшталт Оксфарда ці Кембрыджа. Не трэба недаверліва ўсміхацца, бо гэта прапанова зыходзіць з Паўночнай Амерыкі.

У суботу 12 верасня вечарам пасля канцэрта наваградчане пакідалі Замкавую гару трохі агаломшаныя. Яны ніяк не чакалі такой увагі і павагі да іх невялікага горадка. Чуліся рэплікі, што такога ў Наваградку не паўторыцца больш ніколі. Але ўсё ж, няхай не адразу, наваградскія жыхары адчулі і зразумелі, што можа быць і такое, калі дзяржава існуе для людзей, а не наадварот... Праз гэтыя два нядоўгія святочныя дні наваградчане разам з усімі гасцямі зрабілі важкі крок да набыцця пачуцця ўласнай годнасці як чалавечай, так і нацыянальнай. Вось у чым бачацца незвычайнасць і значнасць наваградскіх святкаванняў.

Гэтай зямлі не хапае свята. Дык давайце яго рабіць.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ.**

Наваградак—Менск.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЦАМ

**27—29 лістапада на Беларусі адбудзецца святкаванне гадавіны Слуцкага паўстання. Камісія па культуры і гісторыі БНФ «Адраджэнне» сумесна са слуцкім гарадскім аргкамітэтам распрацавалі праграму свята.**

**27 ЛІСТАПАДА.**
**Беларусь, дыяспара.**

**Жалобныя набажэнствы ў хрысціянскіх бажніцах усіх канфесій у памяць беларускіх вояроў, якія загінулі ў вайне з бальшавікамі за незалежнасць Бацькаўшчыны. Догляд магіл змагароў.**

**МЕНСК. 12.00. Ускладанне вянка да дома Эдварда Вайніловіча (пл. Незалежнасці), у слуцкім доме якога 14—15 лістапада 1920 г. адбыўся «Першы беларускі з'езд Случчыны». З'езд выбраў Раду Случчыны Беларускай Народнай Рэспублікі, даверыў ёй цывільную ўладу і даручыў арганізацыю Беларускага войска.**

**МЕНСК. ДОМ ЛІТАРАТАРА. 15.00. Навуковая акадэмія (канферэнц-зала). 18.30. Адкрыццё мастацкай выставы суполкі «Пагоня» (фае 2 паверха). 19.00. Урачысты сход і публіцыстычна - мастацкая вечарына (вялікая зала).**

**28 ЛІСТАПАДА.**
**МЕНСК. 8.30. Аўтавыправа па маршруту Менск—Семежава — Слуцак. Мястэчка Семежава. 11.00—12.00. Асвячэнне памятнага крыжа ў гонар палеглых паўстанцаў. Выправа да Слуцку.**

**СЛУЦАК. 14.00. Закладка помніка слуцкім паўстанцам. Мітынг. 17.00. Гарадскі Палац культуры. Урачыстае пасяджэнне і вечарына.**

**29 ЛІСТАПАДА.**
**САЛІГОРСК. 13.00. Краязнаўчы музей. Адкрыццё выставы суполкі «Пагоня» Саюза мастакоў Беларусі «Постаці Бацькаўшчыны».**

**Запрашаем усю дэмакратычную грамадскасць краіны прыняць удзел у святкаванні галавіны Слуцкага паўстання, а камерцыйныя арганізацыі выступіць фундатарамі свята.**

**БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ «АДРАДЖЭННЕ».**

## Запрашае Дом літаратара

**Сёння а 18 гадзіне ў вялікай зале «Выбранецкія шыхты» пачынаюць свята фальклору «Дудовы фэст», якое будзе доўжыцца тры дні.**

**17 лістапада ў вялікай зале адбудзецца прэзентацыя часопіса «Першацвет» літаратурнага аб'яднання «Крыніцы».**

**19-га — рэтрапрагляд фільма «Шукальнікі шчасця» (з калекцыі Дзяржфільмафонду).**

**20 лістапада ладзіць сваю творчую вечарыну клуб «Спадчына». У наступны чацвер, 26 лістапада, адбудзецца вечар «Якуб Колас у музыцы».**

**27-га — вечарына да гадавіны Слуцкага паўстання «Шляхам волі». Пачатак яе а 17-ай гадзіне.**



Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-65; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 12.11.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

**Індэкс 63856** П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
**Тыраж 18068** М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12